© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020




Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# рэгіянальная газета

28 лютага 2003 года

№ 9 (410)
Выходзіць па пятніцах

ПЛЮС Тэлетыдзень

Навіны рэгіёну

## Наркотыкі з Салігорска

**МЯДЗЕЛ**. У жыхара Салігорска, які адпачываў у спартыўна-аздараўленчым комплексе "Прыазёрны", знайшлі ампулы сродку, які ўтрымлівае псіхатропныя рэчывы.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

## Высякаюць сад

**АШМЯНЫ**. У Доргішках высякаюць сад плошчай каля 4-х гектараў. Ён належыць калгасу імя Леніна.

Як сказаў начальнік раённай інспекцыі прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя **Аляксандр Звонаў**, дрэвы пасадзілі 30-40 гадоў таму назад і ад іх няма ніякай карысці. Мяркуецца, што цяпер тут будуць сеяць збожжа ці пасадзяць бульбу.

**Ірына РАБУШКА.**

## Трэнажорная зала

**ВАЛОЖЫН**. Па ініцыятыве кіраўніка фізічнага выхавання прафесійна-тэхнічнага вучылішча №208 **Зоі Гусакоўскай** у райцэнтры адкрылася трэнажорная зала.

Яна месціцца ў раней закінутым падвале. Навучэнцы ПТВ самі ўсё прывялі ў парадак. А кіраўнік рэспубліканскага ўпраўлення "Белтаррэсурс" **Вікенцій Шаўлоўскі** купіў трэнажор "Кетлер". У новую трэнажорную залу ходзяць і дарослыя. Заняткі там бясплатныя.

**Наталля ШТЭЙНЕР.**

## Фестываль песні

**МАЛАДЗЕЧНА**. Учора гарвыканком на сваім паседжанні зацвердзіў аргкамітэт чарговага рэспубліканскага фестываля песні і паэзіі.

Ён пройдзе ў Маладзечне 13-15 чэрвеня. Старшыня гарвыканкома **Мікалай Чурсін** сказаў, што існуе верагоднасць, што фестываль адкрые прэзідэнт Беларусі.

**Аддзел інфармацыі "РГ".**

## Украдзеныя грошы

**СМАРГОНЬ**. Супрацоўнікі аддзела па барацьбе з эканамічнай злачыннасцю Смаргонскага РАУС устанавілі факт фінансавых злоўжыванняў кіраўніком фірмы смаргонкай К. Яна незаконна завалодала і рэалізавала прадукцыю слуцкага цукрарафінаднага завода і ААТ "Лідскае піва" на 76 мільёнаў рублёў. К. Арыштаваная.

**Галіна ПАДМОСТКА.**

ЗАПРАШАЕМ НА ПРАЦУ
**менеджэра па продажы**
ў Маладзечанскім прадстаўніцтве (Маладзечна, Вілейка, Ашмяны, Валожын, Смаргонь).
Патрабаванні: в/а, наяўнасць аўтамабіля, веданне ПК, узрост да 40 год.
Запіс для гутаркі па тэл. (8-017) 275-90-95

# Каго будзем выбіраць?

**МАЛАДЗЕЧНА. 2 сакавіка – выбары ў мясцовыя Саветы. У той далёкі ўжо час, калі была дзяржава СССР і рэспубліка БССР, на выбарах у бюлетэні было прозвішча аднаго кандыдата. На апошніх выбарах у Вярхоўны Савет БССР у 1990 годзе ў Маладзечне было ўжо 6 кандыдатаў, быў выбар.**

Але нават калі ў бюлетэні было адно прозвішча, рэгістрацыя кандыдата прадстаўляла адбор з некалькіх прэтэндэнтаў на сходах выбаршчыкаў. Звычайна, у працоўных калектывах, дзе ўсе ведалі ўсіх, не абавязкова заўсёды зацвярджалі кандыдата, якога прапаноўвала кіраўніцтва.

Дэпутат Савета павінен быў не радзей разу на паўгода несці справаздачу перад выбаршчыкамі. Пратакол сходу з заўвагамі і прапановамі выбаршчыкаў перадавалі ў сакратарыят Савета, дзе не ўсе, але многія заўвагі знаходзілі вырашэнне.

Да майго сораму, сёння я не ведаю прозвішча ніводнага дэпутата гарадскога Савета і нават старшыню Савета. Сярод маіх знаёмых таксама ніхто не ўспомніў ніводнага дэпутата. На слыху прозвішчы старшыні выканкома і яго намесніка.

Мы часта лаемся на ўрад і мясцовыя ўлады за цяжкасці нашага жыцця. Рост цэн, камунальных паслуг, малая зарплата, пенсіі, ахова здароўя, магчымасць знайсці работу. Калі я чую словы кіраўніка дзяржавы, якія часта паўтараліся летась, што створаныя ўмовы для работы і годнай заработнай платы, то хочацца ведаць: для каго, і што абазначае годная?

Але чаму мы не хочам прызнаць СВАЮ адказнасць за цяжкасці нашага жыцця? Па Канстытуцыі, у нашай дзяржаве, як і ва ўсіх дэмакратыях, існуе раздзяленне ўлад. Адна з іх – прадстаўнічая, тая, што прадстаўляе нашы інтарэсы і афармляе іх у законы ці пастановы, абавязковыя для выканання выканаўчай уладай у меры сваіх паўнамоцтваў. Бліжэй за ўсіх да нас мясцовыя Саветы, на самым версе – заканадаўчы орган: Палата прадстаўнікоў.




2 сакавіка – выбары ў мясцовыя Саветы. Фота IREX/ProMedia

Паважаныя чытачы, паспрабуйце ўспомніць хаця б адзін закон ці рашэнне ўлады, якое АСАБІСТА вам аблегчыла жыццё і працавала на вашу карысць?

Асабіста ў мяне не атрымалася. Плата за камунальныя паслугі нават аднапакаёвай кватэры складае ўжо больш паловы сярэдняй пенсіі і, напэўна, больш паловы зарплаты многіх тых, хто працуе. Зарплаты, якую на мінулым тыдні завод "Спадарожнік" атрымліваў за снежань.

Вельмі прыемна, што цэнтр горада, раён Вялікага Гасцінца прыгажэе, але калі пасля дажджу новыя тратуары становяцца коўзкімі, як каток, а зімой зусім на іх цяжка хадзіць, то задумваешся: каму прынесла карысць гэтая прыгажосць? Ці так рацыянальныя работы ў парку? Ці зможа горад утрымліваць Палац культуры, калі заводы ледзь дыхаюць? Колькі каштуе ўтрыманне гарадскіх і раённых выканкомаў, ці заслужылі яны іншамаркі, якія іх возяць? Што аб гэтым думаюць дэпутаты мясцовых Саветаў? Калі і дзе яны давалі справаздачу перад выбаршчыкамі? Чаму не чуваць нашага дэпутата ў Палаце прадстаўнікоў?

### Дык каго ж мы выбіраем?

І пры "Саветах", і цяпер у прадстаўнічыя органы ў большасці выбіраліся кіраўнікі розных рангаў. Успомніце адносіны на рабоце, службе, задумайцеся: ці аднолькавыя інтарэсы ў кіраўнікоў і падначаленых, гаспадара і наёмнага работніка? Чые інтарэсы прадстаўляюць нашыя выбраннікі?

Я думаю, што галоўная якасць дэпутата, якога выбіраюць, гэта перавага грамадскіх інтарэсаў перад асабістымі, якая даказаная папярэдняй работай дэпутата, пажадана работай шматгадовай, а не ў перадвыбарнай кампаніі. Давайце адказна выбіраць, а не зацвярджаць чыйсьці выбар. Чым больш нас прыйдзе на выбары, тым аб'ектыўней будуць іх вынікі.

Успомнім аб сваім грамадзянскім доўгу, што мы не толькі насельніцтва нашай дзяржавы, але таксама нясём адказнасць за будучыню нашых нашчадкаў і за сённяшняе наша жыццё.

**Віктар УЛАСЕНКА,**
**дэпутат Вярхоўнага Савета Беларусі XII склікання.**

## На дзевяноста дзевяць і пяць

**ВІЛЕЙКА. Райвыканком замацаваў за кожным выбарчым участкам адказнага з ліку кіраўнікоў раёна. Задача адказнага – тэхнічнае забеспячэнне выбараў.**

"Не трэба чакаць, пакуль у нядзелю ў абед прагаласуе 50%, трэба самім знайсці кожнага выбаршчыка, калі спатрэбіцца, нават дома. Яўка павінна быць 99,5%. У нас няма грошай на другі тур", — сказаў старшыня райвыканкома Яўген Сініла на інструктажы адказных.

**Аддзел інфармацыі "РГ".**

## Як кралі ў Мядзельскай ПМК

Праверка фінансавай дзейнасці магазіна, прадпрыемства ўстанавіла недастачу больш, чым за 3 мільёны рублёў.

3-я старонка

## Дзве ўстановы ў адной

Маладзечанская сярэдняя агульнаадукацыйная школа мастацтваў, магчыма, зменіць статус. Канчатковае рашэнне не будзе прынята ў Мінску.



4-я старонка

## Засцерагайцеся – грып

Першыя звесткі аб эпідэміі грыпу адносяцца да канца XII стагоддзя. Як сёлета засцерагчыся ад каварнай хваробы? Чытайце парады ўрача.

7-я старонка

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020



# Дзве ўстановы ў адной

## Сярэдняя агульнаадукацыйная школа мастацтваў, магчыма, зменіць статус

**МАЛАДЗЕЧНА. Ад верасня, магчыма, САШМ (абрэвіятура школы) стане гімназіяй-педагагічным каледжам мастацтваў. Канчатковае рашэнне будзе прынятае ў Мінску.**

Рашэнне не выпадковае. Сёлета САШМ адзначыла 15-годдзе. За гэты час склаўся цудоўны калектыў высокакваліфікаваных спецыялістаў. У школы свой твар, свой падыход да работы, да дзяцей.

### Дзяржава ў дзяржаве, або Маленькая школа для маленькіх дзяцей

Нядзеля. Здаецца, у школе павінны быць выхадны дзень. Аднак дзверы яе адчыненыя. Разам з мамамі і татамі на заняткі спяшаюцца 4-6-гадовыя вучні. Ужо трэці год тут працуе міні-школа. Гаворыць намеснік дырэктара Вольга Юльянаўна Хазікава:

— Ведаеце, падчас субяседавання можна памыліцца ў выбары профілю будучага школьніка. Па нейкіх прычынах дзеці не заўсёды раскрываюць сябе поўнасцю, не паказваюць усе свае магчымасці. Таму мэта заняткаў у міні-школе – высветліць здольнасці будучага "сашыста". І ўжо тады канчаткова вырашыць разам з педагогамі і бацькамі, які накірунак дзіцяці выбраць: тэатральны, мастацкі, музычны, харэаграфічны, агульнаэстэтычны. У міні-школе не вучаць пісаць і чытаць. Акцэнтуецца ўвага на развіццё дзіцяці, на фарміраванне ў яго псіхалагічных уласцівасцей, напрыклад, памяці. У канцы навучальнага года з дзецьмі праводзіцца трохступенчатая гутарка. А потым спецыялісты раяць бацькам, які профіль выбраць.

— **Як паводзяць сябе вучні міні-школы?**

Зусім не абавязкова, што малыш пасля міні-школы будзе залічаны ў першы клас. У большай ступені выбар залежыць ад бацькоў. Але, скажу шчыра, мала хто выбірае іншую школу. Што тычыцца паводзін, то першыя заняткі звычайна праходзяць вельмі ціха і спакойна. Аднак праз 2-3 тыдні дзяцей не пазнаць – разняволеныя, упэўненыя ў сабе. І, як заўсёды, непасрэдныя. Да канца навучальнага года дзеці становяцца дарослымі. Ім падабаецца вучыцца і быць сапраўднымі вучнямі.

### Я – першакласнік

У школе стала традыцыяй у пачатку кожнага навучальнага года праводзіць пасвячэнне першакласнікаў у "сашысты". Прынята называць гэтае мерапрыемства "Святам надзеі". Штогод выкарыстоўваюцца новыя цікавыя формы правядзення. Сёлета на сцэну канцэртнай залы школы змясцілі два дрэўцы. Адно – вялікае, другое – зусім маленькае. Упэўнены, што першакласнікам надоўга запомняцца словы дырэктара школы Людмілы Аркадзьеўны Васілевіч:

– Дзеці, паглядзіце на гэтыя дрэвы. Гэта дрэвы ведаў. Маленькае — вашае. Лісточкі – гэта вы самі. Сёння мы запалім ліхтарыкі на вашым дрэўцы. З кожным годам яно будзе цягнуцца ўвышыню, падрастаць. Ліхтарыкі таксама будуць павялічвацца. І праз 10 гадоў перабярэцца ў касцёр ведаў. Тады мы зноў змесцім на сцэне вашае дрэўца. І вы ўбачыце, якім моцным і вялікім яно стала. Так і вы самі за гэты час станеце вялікімі, моцнымі і разумнымі.

Калі падрыхтоўчыя класы займаюцца ў дзіцячых садах, то першакласнікі сядзяць за партамі ў школе. Аб сваіх першых уражаннях (аб школе) гавораць вучні 1 "Е" (мастацкага) класа:

— Школа вялікая і можна бегаць па калідоры, пакуль не ўбачыць настаўніца.

— Падабаецца хадзіць у сталоўку, бо там прадаюць булачкі.

— Наша настаўніца Святлана Аляксееўна Шыцік гаворыць, што з дарослымі трэба вітацца. Аднак іх столькі многа, што калі з усімі вітацца, то не будзе часу паразмаўляць з сяброўкай на перапынку.

— У калідоры шмат карцін, як у музеі, у які мы з татам хадзілі летам.

**Сёлета на гарадскіх прадметных алімпіядах навучэнцы САШМ занялі 19 прызавых месцаў. Гэта лепшы паказчык па горадзе. Дзесяцікласніца Анастасія Траскевіч будзе прымаць удзел у рэспубліканскай алімпіядзе па геаграфіі. А Дар'я Канчакова (11 клас) – у рэспубліканскай алімпіядзе па біялогіі.**

**А ў маі на базе САШМ прайшла міжнародная канферэнцыя па кіраванні якасцю адукацыі. Маскоўская прафесура выставіла школе адзнаку "выдатна".**

**Па выніках мінулага навучальнага года 78 працэнтаў выпускнікоў школы паступілі ў вышэйшыя навучальныя ўстановы.**



«Магчыма, я знайшоў свой горад і сваю школу!» – Кірыл Сапрыгін з 3 «А».



На перапынку старшакласніцам трэба прывесці сябе ў парадак.



Слава Фёдараў з 3 «Е» класа перад тым, як маляваць, вывучае характар «аб'екта».



На занятках тэатральнага майстэрства. Выхаванцы Галіны Лякомцавай.



Выкладчыца па класе цымбалаў Жанна Бягун са сваімі выхаванцамі.

### Збіраюся стаць праграмістам

Вольга Іўжычэнка заканчвае 11 клас. Яна мала чым адрозніваецца ад сваіх аднакласнікаў. Кожны з іх скіраваны на вучобу. І ўжо даўно ведае кім хоча быць. І выбар той ці іншай навучальнай установы для іх – не выпадковы.

У гэтым годзе Вольга перайшла з эканамічнага на фізіка-матэматычны профіль. І сёлета на гарадской прадметнай алімпіядзе па праграміраванню заняла першае месца.

— **Ці многа часу заняла падрыхтоўка да алімпіяды?**

— Безумоўна, многа. Гэта ж алімпіяда, а не школьная кантрольная. Я не геній, і таму падрыхтавацца за адзін вечар не ў маіх сілах. На алімпіядзе наогул большыя патрабаванні да ведаў. Трэба ўмець працаваць з файламі, выкарыстоўваць веды іншых прадметаў, рашаць любую задачу: матэматычную, эканамічную, фізічную. Недастаткова ведаць толькі асновы камп'ютэра і мову праграміравання.

— **Табе інфарматыка ў жыцці спатрэбіцца?**

— Збіраюся стаць праграмістам. Хачу ведаць камп'ютэр не толькі для таго, каб набіраць тэкст і слухаць музыку, а дзеля таго, каб самастойна ствараць новыя праграмы.

**Віталь КРУПЯНЬКОЎ.**

### Вытрымкі са школьных сачыненняў

**Аляксандра Сільвановіч, 9 клас:**

*«Мая школа — гэта сапраўдны храм ведаў. Калі я прыходжу туды, то адразу забываюся аб усім, акрамя заняткаў, школьнага матэрыялу. Настаўнікі добразычлівыя, але патрабавальныя. Кабінеты ўтульныя, светлыя. Шмат кветак. І калі я сустракаюся са сваімі сябрамі з іншых школ, то заўсёды адстойваю інтарэсы сваёй навучальнай установы. Мая школа – самая лепшая. Я ёй вельмі ганаруся».*

**Аляксандра Кісель, 9 клас:**

*«Мне вельмі падабаецца наш дырэктар Людміла Аркадзьеўна Васілевіч. Яна змагла аб'яднаць інтарэсы настаўнікаў, дзяцей і іх бацькоў».*

**Ганна Кіслая, 9 клас:**

*«У школе я праводжу амаль увесь час. Наведваю дадатковыя заняткі, займаюся харэаграфіяй, музыкай. Стамляюся, але ведаю, што гэта ўсё мне спатрэбіцца ў жыцці. Упэўнена, што пасля заканчэння школы змагу паступіць у любую вышэйшую навучальную ўстанову. Ведаў будзе дастаткова».*

### Афіцыйна

**Школа (акрамя пачатковай) працуе па цыкла-блочным раскладзе: тыдзень навучэнцы вывучаюць гуманітарныя прадметы, тыдзень – прыродазнаўча-матэматычныя.**

**З бягучага навучальнага года ўведзена мультыпрофільнае навучанне. У першую чаргу ўлічваліся інтарэсы дзяцей. У 10-х класах – 74 вучні. Навучаюцца яны ў 73-х мультыпрофілях. А профільнае навучанне тут з 8 класа.**

**Школа працуе па трыместрах. У першай палове навучальнага года праз 5 тыдняў вучобы – тыдзень канікулаў. У другой палове канікулы праз 6-7 тыдняў вучобы.**

**Акрамя вывучэння агульнаадукацыйных дысцыплін, навучэнцы САШМ займаюцца на мастацкім, музычна-харавым, харэаграфічным, тэатральным, агульнаэстэтычным аддзяленнях. Па выніках мінулага года на базе 9 класаў 7 навучэнцаў школы паступілі ў Маладзечанскае музычнае вучылішча. Некалькі чалавек займаецца ў ліцэі пры акадэміі музыкі. Творчыя калектывы школы толькі ў мінулым годзе атрымалі званні «Узорных». Гэта калектыў ансамбля скрыпачоў (мастацкі кіраўнік Алена Старавойтава), харавы калектыў «ЕСТРО» (мастацкі кіраўнік Наталля Піскун). Калі гаварыць аб мастацтве, у школе працуюць вядомыя ў межах вобласці, рэспублікі педагогі — народныя майстры Ірына Драмлюк, Людміла Юша. А Мікалай Аўчыннікаў і Рыгор Мяжуеў з'яўляюцца членамі Саюза мастакоў Рэспублікі Беларусь.**

**Вучні школы ствараюць сваю газету, бо тут ёсць спецкурс «Асновы журналістыкі». Дарэчы, спецкурсаў у САШМ шмат.**

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020



# І тут ствараюцца сем'і

**МАЛАДЗЕЧНА. 153 розныя лёсы сустрэліся ў доме-інтэрнаце для састарэлых і інвалідаў. Хтосьці пражыў тут 3 дні, а хтосьці – 20 гадоў.**

Сярод жыхароў – інвалід другой сусветнай, 2 удзельнікі гэтай вайны, удава загінуўшага воіна, 5 вязняў фашысцкіх канцлагераў.

У інтэрнат прымаюць жанчын і мужчын з усёй Мінскай вобласці пасля 55 і 60 гадоў адпаведна. З гэтага ўзросту яны лічацца састарэлымі. А таксама інвалідаў I і II групы. Самы малады з іх – 24-гадовая жанчына. Усе жыхары дома знаходзяцца на дзяржаўным забеспячэнні.

Штогод паміраюць каля 30-40 чалавек. На могілках у Лазаўцы для іх выдзелена асобнае месца. Каля палловы састарэлых родныя не забіраюць, нават каб пахаваць. Часта гэта робяць былыя суседзі састарэлых.

Здаецца, яшчэ нядаўна яны былі маладымі. Жылі на Валожыншчыне, Вілейшчыне, Маладзечаншчыне... Мелі гаспадарку, дом і сям'ю. Адчувалі сябе патрэбнымі дзецям і родным. У нейкі момант старыя сталі лішнімі. Іх аддалі ў інтэрнат. Некаторыя самі збеглі сюды. Маўляў, каму старыя патрэбныя. Але жыць хочацца ў любым узросце.

Інтэрнат стаў для іх сапраўдным домам. Тут яны ладзяць канцэрты, спяваюць пад баян, чытаюць кнігі. Асабліва падабаюцца пра каханне, жудасы і баевікі. Попытам карыстаецца кніга "Эмануэль". Ходзяць у магазін. Пенсію звычайна трацяць у той дзень, калі атрымалі. Ды яна ж маленькая: 25% ад налічанай пенсіі выдаецца на рукі інвалідам і 10% - астатнім.



Юзэфа Герман родам з Валожынскага раёна. У Маладзечанскі дом-інтэрнат прыйшла сама. Маўляў, хто ж старых любіць. Падабаецца ёй шкарпэткі вязаць. Аддае потым іх каму падыдуць. Фота Ірыны РАБУШКІ.

У доме-інтэрнаце ствараюцца новыя сем'і. Для іх выдзяляюць асобны пакой. Амаль год жывуць разам 82-гадовы Баляслаў Шаблоўскі і 84-гадовая Марыя Сезень. Любяць разам у падкіднога дурня пагуляць. З імі сябруе Сямён Астроўскі. Ён гаворыць, што аддаў сваю кватэру былым суседзям: трэба ж ім сваіх дзяцей гадаваць. А іх у сям'і трое.

Валянціна і Аляксандр Тарасевічы хутка адзначаць 13 гадоў сумеснага жыцця. Увогуле яны тут жывуць 20 гадоў. Да Валянціны прыязджаюць родныя. Пасылкі ёй прысылаюць. Да Уладзіміра ніхто не прыходзіць...

Усе супрацоўнікі інтэрната памятаюць каханне маладой жанчыны і мужчыны, нашмат старэйшага за яе. У дзень вяселля дзяўчыне надзелі сапраўднае ўбранне нявесты. Повары спяклі каравай. Летась яе не стала.

У інтэрнаце ёсць і доўгажыхарка – 99-гадовая Агаф'я Казлоўская. Свой дом у Дравашах проста пакінула, у ім ніхто не жыве. Сын і нявестка памерлі. Засталося некалькі фотаздымкаў і сумка. Раней у ёй яйкі на базар вазіла прадаваць...

**Ірына РАБУШКА.**

## Розныя павінны быць роўнымі

**ВІЛЕЙКА. У студзені адбылася сустрэча актывістаў Вілейскай раённай арганізацыі "Беларуская асацыяцыя дапамогі дзецям-інвалідам і маладым інвалідам" (ВАДДІІМІ) з загадчыкам аддзела па працы і сацыяльнай абароне Віктарам Ляцягам. На ёй абмяркоўвалася стварэнне групы дзённага знаходжання для дзяцей-інвалідаў.**

Да гэтага часу ў дачыненні да людзей з абмежаваннямі ў Беларусі захавалася палітыка "замоўчвання", калі лічылася, што праблема не існуе, калі пра яе ніхто не ведае. Мы не бачым на вуліцах людзей з абмежаваннямі. Ствараецца ўражанне, што іх няма. Між тым, гэтых людзей не бачна таму, што для іх, асабліва, хто мае парушэнні рухальнага апарата, практычна нічога не прыстасавана. У непераадольную перашкоду ператвараецца элементарны бардзюр і прыступкі.

Вілейская АДДІІМІ аб'ядноўвае 90 сем'яў, якія выхоўваюць дзяцей і падлеткаў з разумовымі і фізічнымі адхіленнямі. Місіяй арганізацыі з'яўляецца стварэнне дзецям і маладым людзям з асаблівасцямі ў развіцці роўных умоў з іншымі грамадзянамі ва ўсіх сферах жыцця грамадства, іх рэабілітацыя і інтэграцыя. З лютага 2002 года ёй кіруе Тамара Мясцечка, якой дапамагаюць намесніца Людміла Святоха і актывісты Ірына Валовік, Вера Гаралік, Наталля Жаўнаровіч, Таццяна Лямок і Святлана Касяк.

За 5-годдзе свайго развіцця са статусам юрыдычнай асобы ВАДДІІМІ ператварылася ў адну з самых моцных грамадскіх арганізацый раёна. Яна праводзіць шматлікія мерапрыемствы. Т. Мяцечка кажа, што дзецям вельмі добра ў калектыве.

Для групы дзённага знаходжання трэба абсталяваць памяшканне, у якім на працягу дня дзеці пад наглядам спецыялістаў будуць разам гуляць, навучацца ў гуртках, сацыяльна інтэгравацца. У гэты час бацькі змогуць нармальна працаваць.

За мінулы час рашэнне праблемы наперад не прасунулася, за выключэннем арганізацыі паездкі за досведам ў Мар'іну Горку, дзе аналагічны цэнтр дзённага знаходжання "Праменьчык надзеі" ўжо створаны асацыяцыяй бацькоў дзяцей з абмежаваннямі.

Па словах Віктара Ляцягі, у раённым бюджэце на 2003 год выдаткі на стварэнне групы не прадугледжаны. Адчыніць групу пры цэнтры сацыяльнай дапамогі "Дыялог", на думку яго кіраўніка Людмілы Сляпцовай, магчымасці няма.

Асноўная праблема – знайсці памяшканне для размяшчэння групы, таму што ў выдзеленым зараз падвале няма неабходных умоў: санвузла, кухні. Пажадана, каб былі пакоі для камп'ютэрнага класа, гуртковай работы.

Памяшканне дазволіць звярнуцца да замежных фондаў, якія спецыялізуюцца на фінансаванні грамадскіх арганізацый для рашэння сацыяльных праблем. Дапамогу ў гэтым згодна аказаць грамадская ініцыятыва "Клуб "Віляйчане", якая дзейнічае ў межах рэалізацыі праекта Вілейскай харугвы РГА "Аб'яднанне беларускіх скаўтаў".

**Віталь ПАЎЛОЎСКІ.**

■ ДА 50-Й ГАДАВІНЫ З ДНЯ СМЕРЦІ СТАЛІНА

# Сакавік 1953-га

**У пачатку сакавіка 1953 года наш ваенны карабель выйшаў у бок польскага Свінаусця. Але мора ўскіпела такім шалёным штормам, што нас зноў вярнулі ў Балтыйск. А там мяне накіравалі на пост у штабе берагавой базы.**

Калі апошні служачы "адплыў" са штаба, запіраю дзверы на крючок і прашу дзяжурнага тэлефаніста пабудзіць мяне ў 10 вечара і пакліксць змену.

– А чаму гэта такая жалобная музыка па радыё?

Дзяжурны пацінуў плячыма, а я ўсеўся на супрацьпажарную скрынку ў куце і імгненна заснуў.

Неўзабаве тэлефаніст раскатурхаў мяне:

– Слухай, бяда! Але ж урачоў-забойцаў у Крамлі знішчылі своечасова. Магчыма, выратуюць...

Дыктар, захліпаючыся ад гора, паведамляў аб цяжкай хваробе "мудрага правадыра ўсіх народаў вялікага Сталіна". Ад гэтай навіны сапраўдны шторм разбушаваўся ўжо ў ва мне. Нарэшце людажэрца злёг!

Цяпер мяне сон не браў. Успомнілася, як у верасні 1939 года штодзённа хадзіў у Курабец сустракаць вызваліцеляў. І як здзівіў іх выгляд! Байцы – маленькія, худзенькія. Галіфэ з чаравікамі і анучамі, а замест мундзіраў – гімнасцёркі, сцятыя брызентавымі дзягамі. Даўжэзныя вінтоўкі таксама на брызентавых рэменях...

А затым хлынулі масавыя арышты і высылкі. З вуснаў людзей пастаянна зрываліся зласвесныя словы: Салаўкі, Сібір, Калыма... І пары з роту не выпусці, каб праўду сказаць, – тут жа знікнеш назаўжды. Дачакаліся, адным словам.

А цяпер я і сам абдымаю такую ж вінтоўку ўзору канца 19–га стагоддзя.

Цягнулі мы лямку за траіх. Па штаце "паложана" на наш карабель 100 чалавек каманды, а ёсць 30. Вымотваліся так, што спалі на хаду. Нядаўна на вячэрняй паверцы адзін з матросаў не сцярпеў:

– Канцлагер, горш чым у Качджада...

Тады ішла вайна ў Карэі. Савецкая прапаганда палохала нас, што амерыканцы вострасаў Качджада ператварылі ў лагер смерці для паўночных карэйцаў і кітайскіх добраахвотнікаў.

І матрос знік нявведама куды.

Цяжкай нагрузкі не вытрымлівалі многія. Некаторыя адмаўляліся ад службы, каб патрапіць у штрафныя батальёны, а некаторыя накладалі на сябе рукі. Матрос Літвін з нашага карабля спрабаваў застрэліцца на варце. Толькі на сейфе штыком надрапаў: "Паведаміце бацькам, што загінуў на баявым пасту". Цудам вярнулі яго ўрачы з таго свету.

А што рабілася дома! Сілай заганялі ў калгасы, адбіралі ў сялян самае дарагое, нажытае потам і крывёю: зямлю, пабудовы, коней, вупраж, калёсы, сані, плугі, бароны, збожжа... Абдзіралі страшэннымі падаткамі, арыштоўвалі, судзілі ні за што. Вывозілі і без суда...

У мірны час улады стварылі невыносны голад. Чэргі за хлебам займалі яшчэ звечара. У калгасах працавалі бясплатна – задарма!

... І вось праз некалькі дзён мы замерлі ў страі на жалобным мітынгу. Было страшна глядзець, як дарослыя мужчыны ўсур'ёз плачуць, змахваюць слёзы са шчок.

Запомніўся Берыя: "Хто не сляпы, той бачыць, якога правадыра страціў свет", – казаў ён і паўтараў гэты рэфрэн: "Хто не сляпы, той бачыць...".

Так і хочацца крыкнуць услед часу:

– Людзі, апомніцеся! Адрозніваўце людзей ад людажэрцаў. Вы ж не сляпыя. Успомніце ўкрадзеную ў вас маладосць, вашыя рабскую працу і бяспраўе. І вечны страх, што ў любы момант маглі вас упячы ў лагер на пагібель. Не маніце сабе і людзям, што тады было добра...

**Аляксандр НАРКЕВІЧ, Вілейка.**

### З сям'і шаўца



Сталін Іосіф Вісарыёнавіч (сапраўднае прозвішча Джугашвілі) ) (1878, Горы Тыфліскай губерні — 1953, Масква). Палітычны і дзяржаўны дзеяч..

Нарадзіўся ў сям'і шаўца. У сацыял-дэмакратычным руху з 1899 года. Пасля 1903 года – бальшавік. Арыштоўваўся і ссылаўся царскімі ўладамі. У 1917 – член ваенна-рэвалюцыйнага савета ў Петраградзе. 1917-22 – нарком па справах нацыянальнасцей. З 1922 года – член палітбюро ЦК. У 1922 годзе выбраны генеральным сакратаром ЦК. У 1920-х – пачатку 30-х у ходзе барацьбы з іншымі партыйнымі лідэрамі ўстанавіў у СССР дыктатарскі рэжым. Аб'явіў сябе "прадаўжальнікам Леніна", абвясціўшы курс на "пабудову сацыялізму ў асобна ўзятай краіне". Праводзіў фарсіраваную індустрыялізацыю і прымусовую калектывізацыю. Галоўны ініцыятар масавага тэрору, стварэння сістэмы ГУЛАГа..

З 1941 года – старшыня Дзяржаўнага камітэта абароны, Вярхоўны галоўнакамандуючы, нарком абароны. У канцы 1940-х – пачатку 50-х гг. па ініцыятыве Сталіна былі разгорнуты шэраг рэпрэсіўных кампаній ("барацьба з касмапалітызмам", з "буржуазнай ілжэнавукай", "справа дактароў" і інш.), ахвярамі якіх сталі многія навукоўцы, дзеячы культуры, аховы здароўя. Сталін разам з кіраўніцтвам БССР, КДБ вінаваты ў знішчэнні сотняў тысяч прадстаўнікоў беларускага народа, у першую чаргу заможнага сялянства і інтэлігенцыі.

Сталін быў пахаваны ў Маўзалеі ў Маскве, пасля крытыкі на XX (1956) і XXII (1961) з'ездах КПСС яго цела вынеслі з Маўзалея і пахавалі ля Крамлёўскай сцяны.

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020



■ ПАРТРЭТ

# Кантрольны метад – дуля

**МАЛАДЗЕЧНА. Загадчыца аддзялення вачэй цэнтральнай гарадской бальніцы Марыя Шакура атрымала прэзідэнцкую прэмію ў 750 тысяч рублёў, якую будзе атрымліваць штомесяц увесь год.**

Дакладней кажучы, гэта штомесячная персанальная надбаўка за значны ўклад у практычную дзейнасць па ахове здароўя насельніцтва. За студзень і люты грошай яшчэ не было. М.Шакура хоча зрабіць за прэзідэнцкую прэмію рамонт у сваёй кватэры.

### Пра Марыю

Родам Марыя з Мінскага раёна. З 5-і гадоў ведала, што будзе доктарам. Закончыла Крупіцкую школу. 6 кіламетраў у адзін бок прыходзілася хадзіць пешшу, Маўляў, цяпер па горадзе страшна ісці. Толькі калі ў 9 клас пайшла, аўтобусам у школу вазілі. Потым вучылася ў Мінскім медыцынскім інстытуце. У гэтыя гады захаплялася футболам. Была заўзятай балельшчыцай мінскага "Дынама". Асабліва падабаўся Малафееў.Часта хадзіла на галоўны сталічны стадыён. Амаль ніводнага матча з любімай камандай не прапусціла.

Што тычыцца вучобы, то яе курс быў вельмі моцным. Нядаўна ездзіла на 30-гадовую сустрэчу выпускнікоў. Сярод іх — галоўны судова-медыцынскі эксперт Беларусі Юрый Гусакоў, дырэктар інстытута траўматалогіі Яўген Белаенка. І яшчэ 8 прафесараў.

Муж Марыі – Уладзімір Шаўка – працуе галоўным доктарам дзіцячай бальніцы. Дзеці па слядах бацькоў не пайшлі. Яны вельмі баяцца крыві. Дачка – эканаміст, сын вучыцца ў юрыдычным каледжы пры Белдзяржуніверсітэце.

### Пра яе работу

... Пацыенту зрабілі аперацыю. Ёсць кантрольны метад, па якім правяраюць ўзнаўленне зроку. Прыводзяць хворага на першую перавязку. Здымаюць бінты і паказваюць... дулю. Калі чалавек усміхаецца, аперацыя прайшла ўдала.

...Гэта адбываецца з вяскоўцамі. Садзяць хворага на крэсла насупраць шыльды з літарамі, па якой правяраюць зрок. "Ну, — кажа доктар, — чым мяне парадуеце". Ён мае на ўвазе, якія літары чалавек убачыць і назаве. А вяскоўцы не разумеюць і адказваюць:

— Кабана зарэжу – прынясу кумпяк.

Не. Гэта не анекдоты. Звычайныя працоўныя будні аддзялення. 30 гадоў М.Шакура аддала "вачам". Больш любіць ісці на работу, чым вяртацца з яе. Спачатку была "вялікім" хірургам. Так сама кажа. Аперацыі на жыватах рабіла. Аперацыя ж на вачах самая высакародная. Яна лічыцца жамчужынай вочнай хірургіі.

Лячыцца да М.Шакуры прыязджаюць з Маладзечаншчыны, Валожыншчыны, Ашмяншчыны, Астравеччыны.

Лепш, канешне, Марыю не ведаць і ў аддзяленне вачэй не трапляць. А берагчы вочы з дзяцінства. Зніжэнне зроку – "школьная" хвароба. Менавіта ў школе многія пачынаюць губляць зрок. "Вока – гэта частка мозга, якая вынесена на перыферыю. Як орган яно фарміруецца да 12-15 гадоў. Таму да гэтага ўзросту за камп'ютэр, — раіць доктар, — лепш не садзіцца". Заўважыла, што ў вясковых дзяцей зрок лепшы, чым у гарадскіх. Лічыць, усяму віной дрэнная сучасная экалогія. Бо і "дарослыя" хваробы вачэй памаладзелі. На катаракту (памутненне крышталіка), калі ў чалавека туман перад вачыма, пакутуюць з 40 гадоў. Раней гэта адбывалася з 60 гадоў. Узрасла колькасць хворых на глаўкому. Гэта захворванне, пры якім павышаецца ціск унутры вока, і павольна і беззваротна надыходзіць слепата. Бывае, сляпыя вочы так баляць, што немагчыма трываць. Такое вока выдаляюць... за 10 хвілін. Увогуле аперацыі на вачах доўжацца ад 20 хвілін да 2 гадзін. У сляпых часта абвастрэецца слых. Здараецца, чалавек слепне імгненна. А калі на адно вока, можна і не заўважыць гэтага. Пагаршэнню зроку і слепаце "спрыяюць" сардэчна-сасудзістыя захворванні, туберкулёз. Варта з 40 гадоў раз на год замяраць вочны ціск. Апошнія гады ў вочнае аддзяленне трапляюць маладыя хлопцы, якія злоўжываюць алкаголем. Менавіта ад яго ў іх псуецца зрок.

Што тычыцца хворых на курыную слепату (людзі, што не бачаць пры слабым святле, асабліва ў прыцемку), то гэтая хвароба прыроджаная. Як правіла, дзеці ў 2 разы горш бачаць за сваіх бацькоў.

Людзей-дальтонікаў, тых, хто няздольны адрозніваць некаторыя колеры, мала. Крыху больш колераанамалаў. Яны не адрозніваюць адценні.

Але хворым заўсёды дапамагаюць. Нават калі становішча здаецца безвыходным, усё роўна робяць аперацыю. 10 чалавек са 100 выйсце знаходзяць. Аперацыя праходзіць удала.

**Ірына РАБУШКА.**



Загадчыца аддзялення вачэй Маладзечанскай цэнтральнай гарадской бальніцы Марыя Шакура аглядае хворага. Фота Ірыны РАБУШКІ.

■ НАША ПОШТА

# Каму ў Ашмянах жыць харашо?

**7 лютага наша газета надрукавала ліст пенсіянера з вёскі Нарбуты Ашмянскага раёна Юзафа Грынчука. Ён пісаў пра тое, як цяжка жывецца старому вясковаму чалавеку. Наракаў на благое медыцынскае абслугоўванне, на дарагавізну тавараў. Пісаў, што на суседняй Смаргоншчыне жыццё налажана па–іншаму. І хаця ніхто ў той публікацыі слова благога не сказаў пра звычайных ашмянцаў або пра горад, у нашай паштовай скрыні апынуўся заказны ліст наступнага зместу. Даём яго без скарачэнняў.**

"Добры дзень! Дарагая рэдакцыя, прачытала ваш артыкул, напісаны пад загалоўкам "Што ў Ашмянах самае горшае?" ад 7 лютага 2003 года. Вы даведаліся толькі адну думку аб маім любімым горадзе, у якім я пражыла 44 гады.

Першае – людзі ў нас цудоўныя, і горад з кожным днём прыгажэе.

Другое – работа нашай бальніцы і "хуткай дапамогі" бездакорная. А цяпер па сутнасці. Многа гадоў мне дапамагае наша бальніца. У мяне тата 8 месяцаў ляжаў, і з боку "хуткай дапамогі" не было адмовы. Мама ўжо два гады не ходзіць, цяжка хворая. Дзякуючы ім яна столькі пражыла і жыве. Работнікі нашай бальніцы заўсёды ідуць насустрач, уважлівыя, ветлівыя і цудоўныя людзі. Дрэннага слова пра іх ніколі не скажу. Вельмі нам дапамагаюць: гал. урач ТМА Белянкоў А.В., заг. хір. аддзялення Якушка Ю.І., заг. тэр. аддзялення Шанько В.А., участковая доктарка Балвакавіч П.А., заг. "хуткай дапамогі" Клімашэўскі І.А., доктар "хуткай дапамогі" Сергеюк І.А., і гэты спіс сапраўды вельмі вялікі, а таксама ўсе фельчары "хуткай дапамогі".

Варта мне пазваніць па 03, і праз дзесяць хвілін аказваюць дапамогу. Як ні бывае цяжка, хворы дорыць усмешку, а яны ўзаемна адказваюць ласкай і дабрынёй.

За гэта наша сям'я ўдзячная ім. Толькі адно не сказала – вялікі дзякуй Чырвонаму Крыжу, яны таксама нас выручаюць і дапамагаюць у маім горы.

Дзякуючы псіхалагічнай падтрымцы маіх аднавяскоўцаў (? – рэд.) мне лягчэй даглядаць за маёй хворай маткай. Дзякую ім усім.

Пісьмо пісала Станкевіч Аляксандра Мікалаеўна. З маёй думкай згодная мая мамачка, ветэран ВАВ, інвалід I групы Бельцюкова Лідзія Андрэеўна, ёй 80 год. 15.02.2003 года".

■ БУДОЎЛІ

# Новы прыёмны пакой

**МАЛАДЗЕЧНА. Да канца года ў цэнтральнай гарадской бальніцы з'явіцца новы прыёмны пакой.**

Другі тыдзень ідзе будаўніцтва новага прыёмнага аддзялення, якое ўзнікне побач з другім бальнічным корпусам. Памяшканне, у якім 30 гадоў месціцца прыёмны пакой, назручнае для прыёму хворых і для саміх медыкаў. Там нават няма вокнаў, таму медработнікі кругласутачна вымушаныя працаваць пры штучным асвятленні.

Новае прыёмнае аддзяленне павінны пабудаваць да канца года. У аддзяленні з'явіцца камп'ютэрны кабінет, дзе можна будзе ўзяць інфармацыю пра хворых, 2 кабінеты для прыёму хворых, 2 душавыя пакоі, дыягнастычныя кабінеты для кароткачасовага назірання за пацыентамі, рэнтгенкабінет. Хворых да заканчэння будаўнічых работ будуць прымаць у старым прыёмным пакоі.

Як сказаў галоўны доктар Маладзечанскага гарадскога тэрытарыяльнага медыцынскага аб'яднання Казімір Клыга, кошт новага аддзялення абыдзецца, па папярэдніх даддзенных, у 65 мільёнаў рублёў.

**Юрый КАРПІЦКІ.**



Рабочы Маладзечанскай ПМК-212 Міхаіл Макарчык працуе на будаўніцтве новага прыёмнага аддзялення Маладзечанскай гарадской бальніцы. Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.

■ ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ АШМЯНЦАЎ

## Ці задавальняе вас якасць медыцыны?

**На гэта пытанне адказвалі жыхары Ашмянаў і наваколля. Калі жыхары Ашмянаў больш крытычна ставяцца да медыцынскага абслугоўвання, то жыхары раёна спакойна даюць гэтаму тлумачэнне. Заўважаюць, што дапамога дактароў будзе эфектыўнай, калі пад рукой ёсць купленыя табою лекі. Вяскоўцы аказаліся вельмі сціплымі. Ніхто не згадзіўся сфатаграфавацца.**



**Казімір Траймак, работнік раённага камбіната бытавога абслугоўвання:**

– Незадаволены, бо лічу, што над ашмянскімі медыкамі няма кантролю. Ляжаў у Гродзенскай бальніцы – іншая справа, там хоць дактары ветлівыя. А я быў загрыпаваў, дык доктар прапісаў анальгін, аспірын і травы. А дзе я зімой травы знайду?



**Мікалай Махібарада, работнік ВА ЖКГ:**

– Я незадаволены, бо дактары не надта глядзяць за хворымі. Мая жонка цяжка хварэе і цяпер ляжыць у бальніцы. Калі была дома, то часта выклікаў "хуткую", на мяне дактары нават абураца пачалі.



**Антаніна Канеўка, дворнік:**

– У бальніцы рэдка бываю. Апошні раз сутыкалася з медыцынай летась, калі захварэла маці. "Хуткая" не затрымалася. У бальніцы дактары былі ветлівыя, толькі амаль усе лекі куплялі самі.



**Галіна Марозава, пенсіянерка:**

– Не. У суботу ў дачкі была моцная алергія, і яна страціла прытомнасць. "Хуткая" прыехала праз 35 хвілін, хаця ехаць ім літаральна праз дарогу. Дачка за гэты час магла два разы памерці і ўваскрэснуць.

**Падрыхтаваў Юрый КАРПІЦКІ.**

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020



# Засцерагайцеся: грып!

**75% інфекцыйных захворванняў выклікаюць вірусы. Узбуджальнікі вірусных інфекцый – прымітыўныя жывыя істоты з прыкметамі жывой і нежывой матэрыі. Цяпер налічваецца некалькі соцень вірусаў.**

Грып і іншыя вострыя рэспіраторныя вірусныя інфекцыі (ВРВІ) наносяць шкоду здароўю людзей. Жыццёва важныя органы чалавека паражаюцца ядавітымі прадуктамі жыццядзейнасці вірусаў — таксінамі. Усё гэта падрывае сардэчнасасудзістую сістэму, выклікае незваротныя пашкоджанні дыхальных органаў, цэнтральнай нервовай сістэмы.

З усіх ВРВІ найбольш вядомы чалавецтву грып. Слова "грып" французскае і азначае "нападаць", "ахопліваць". Наўрад ці можна знайсці чалавека, які не чуў бы аб гэтым захворванні ці не адчуваў на сабе дзеянне віруса грыпу.

Першыя звесткі аб эпідэміі грыпу адносяцца да 1173 года. Сярод шматлікіх эпідэмій XX стагоддзя асаблівае месца займае пандэмія 1918-1920 гадоў – так называемая "іспанка", якая ахапіла амаль усё насельніцтва Зямлі і забрала каля 20 мільёнаў жыццяў, г.зн., у 2 разы больш, чым першая сусветная вайна. У 1957-1958 гадах у час пандэміі "азіяцкага" грыпу перахварэла прыкладна 2 мільярды чалавек – на той час амаль 2/3 насельніцтва зямнога шара. Усё гэта азначае, што вострыя рэспіраторныя вірусныя інфекцыі з'яўляюцца сур'ёзнымі хваробамі.

Першыя ўзбуджальнікі грыпу былі выяўлены ў пачатку 30 гадоў XX стагоддзя. У 1931 годзе амерыканскі ветэрынар Шоуп выдзеліў вірус грыпу ад свіней, а ў 1933 годзе англійскі вучоны Сміт упершыню ўзнавіў захворванне. Ён заражаў белых афрыканскіх шашкоў фільтратам змыву, які ўзяў са свайго горла ў час хваробы.

Вірус грыпу малаўстойлівы ў знешнім асяроддзі і хутка гіне ад уздзеяння фізічных і хімічных фактараў.

Вядомыя тры тыпы віруса грыпу. Яны абазначаюцца першымі літарамі лацінскага алфавіта А, В, С.

Крыніцай інфекцыі служыць хворы чалавек, а заражэнне адбываецца паветранакропельным шляхам. У знешняе асяроддзе вірус трапляе з сакрэтам слізістых абалонак носа, насаглоткі, з кан'юктывы вачэй. Асабліва інтэнсіўна вірус грыпу выдзяляецца з арганізма ў першыя дні захворвання, але заражаць навакольных чалавек можа практычна да моманту поўнага выздараўлення. Пры кашлі, чханні, пры размове заражаныя кропелькі сліны разлятаюцца на адлегласць да некалькіх метраў, могуць знаходзіцца ў паветры некалькі гадзін. Гэта значыць, што існуе рызыка заразіцца ад хворага ў адным памяшканні, транспарце. Перадача інфекцыі можа адбыцца і пры поціску рукі, пры карыстанні посудам, насоўкамі хворага, бо з кропелькамі сліны і слізі ўзбуджальнік можа пранікнуць у арганізм здаровага чалавека. Вірус трапляе ў арганізм чалавека праз верхнія дыхальныя шляхі, укараняецца ў клетку слізістых абалонак і пры наяўнасці адпаведных умоў (аслабленне арганізма, стомленасць, ахалоджанне) выклікае захворванне.

Важную ролю адыгрывае і надвор'е: пахаладанне, высокая вільготнасць, рэзкія перапады тэмпературы.

Грып мае шмат прыкметаў. З моманту заражэння і да пачатку хваробы праходзіць ад некалькіх гадзін да 1-2 сутак. Захворванне пачынаецца з ліхаманкі, раптоўнага павышэння тэмпературы да 38-40 градусаў, з'яўлення галаўнога болю, пачуцця разбітасці, болю ў мышцах, адсутнасці апетыту. Такі хворы апатычны, яго раздражняюць шум і святло. З'яўляецца насмарк, які суправаджаецца чханнем і выдзяленнем слізі, бывае крывацёк з носа, запаленне міндалін, кашаль, частае дыханне. Нярэдка да гэтага далучаецца яшчэ і высыпанне дробных пульхіроў на губах, каля носа, якое выклікане іншым вірусам – вірусам простага герпесу. Пры лёгкай форме грыпу усе сімптомы знікаюць праз 3-5 дзён, але яшчэ доўга чалавек адчувае агульную слабасць, павышаную стамляльнасць, раздражнёнасць. Вірус грыпу аслабляе ахоўныя сілы арганізма і садзейнічае ўзнікненню іншых захворванняў, праяўленню ўскладненняў. Асабліва часта церпяць бронхі, лёгачная тканка, у выніку чаго пачынаюцца цяжкія бранхіты, запаленне лёгкіх, плеўрыты, атыты, паражэнні нервовай сістэмы. Грып абвастрае і тыя захворванні, што ёсць у чалавека.

По прагнозах Нацыянальнага цэнтра грыпу, сёлетні эпідэмічны пад'ём захворвамасці выкліканы вірусамі А і В. Гэтыя вірусы грыпу насельніцтву нашай краіны ўжо знаёмыя. Падобныя вірусы былі ў папярэднія гады, яны маюць нязначныя змяненні, таму ў некаторых людзей ужо ёсць імунітэт да іх.

Пасля афіцыйнай аб'явы аб пачатку эпідэміі ў гарадах і раёнах узмацняецца супрацьэпідэмічны рэжым. Забараняецца правядзенне масавых мерапрыемстваў у дзіцячых дашкольных і падлеткавых установах, наведванне хворых ў стацыянарах, правядзенне прафілактычных медаглядаў школьнікаў у паліклініках. Пры рэгістрацыі грыпу і ВРВЗ больш чым у 30% дзяцей і персаналу школы і сярэднія спецыяльныя навучальныя ўстановы закрываюцца на карантын.



У кожнага свае лекі ад грыпу... Фота Ірыны РАБУШКІ.

### Меры прафілактыкі

Заражэнне грыпам адбываецца праз верхнія дыхальныя шляхі, таму не лішнім будзе перад выхадам з дому змазаць нос аксалінавай маззю. Пры першых сімптомах захворвання і з прафілактычнай мэтай можна прымаць рэмантадын, інтэрферон.

Нельга не сказаць і аб такіх дадатковых мерах як праветрыванне і рэгулярная вільготная ўборка памяшкання, дэзінфекцыя цацак, ультрафіялетавае апраменьванне паветра, строгае захаванне правіл асабістай гігіены. Актуальным з'яўляецца нашэнне ватнамарлевай павязкі пры кантакце з хворым, паласканне горла растворам фурацыліна, соды, рамашкі, прамыванне паласці носа настоем цыбулі з мёдам з дапамогай піпеткі, змазванне слізістай носа масленым настоем часнаку з цыбуляй, розныя інгаляцыі, цёплыя нажныя ванны з гарчыцай...

Найбольш эфектыўным і эканамічным метадам прафілактыкі грыпу з'яўляецца вакцынапрафілактыка. Перш за ўсё, гэта строгая спецыфічнасць вакцын. Састаў вакцыны мяняецца кожны год, і яна выклікае імунітэт да найбольш актуальных у сезоне штамаў віруса грыпу. Вакцынапрафілактыка больш чым у 2 разы перавышае эфектыўнасць неспецыфічных сродкаў, не патрабуе значных матэрыяльных затрат, праводзіцца адзін ці два разы.

Вельмі важна і паўнацэннае, рацыянальнае і збалансаванае харчаванне. Штодзённае выкарыстанне ў рацыёне гародніны і садавіны, прыём вітамінаў (асабліва прыём аскарбінавай кіслаты) адыгрываюць важную ролю ў рэгуляванні акісляльна-ўзнаўленчых працэсаў, вугляводнага абмену, згусанні крыві, рэгенерацыі тканак.

Можна прымяняць імунамадулятары, настойкі і экстракты жэньшэню, элеўтэракокі, шыпшыны, мёд.

Неабходна як мага больш гуляць на свежым паветры. І як мага больш добрых эмоцый, бо менавіта яны з'яўляюцца добрымі засцерагальнікамі ад усялякіх інфекцый.

**Алена ГЛАЎНІЦКАЯ,**
**загадчыца аддзела грамадскага здароўя РЦГЭ.**

# СНІД і наркаманія

**СНІД. Ад яго памірае кожны чалавек, які заразіўся. СНІД не з'яўляецца хваробай адной краіны або аднаго рэгіёну. Беларусь – не выключэнне. Масавае распаўсюджванне наркотыкаў, нежаданне многіх нашых суграмадзян змяніць стэрэатыпы паводзін прывялі да росту колькасці ВІЧ–інфіцыраваных у рэспубліцы.**

Першыя выпадкі ВІЧ–інфіцыраваных у Беларусі былі зарэгістраваны ў 1987 годзе. Да 1996 года такія выпадкі рэгістраваліся спарадычна, часта сярод замежных грамадзян, якія прыехалі ў Беларусь працаваць або вучыцца. У сярэдзіне 1996 года было выяўлена шмат ВІЧ–інфіцыраваных наркаманаў у Светлагорску на Гомельшчыне. З гэтага моманту эпідэміялагічная сітуацыя ў краіне расцэньваецца як благая.

Трапіўшы ў грамадства, вірус імунадэфіцыту чалавека выбірае найбольш неабароненыя групы. У Беларусі такой групай аказаліся шпрыцавыя наркаманы. У большасці выпадкаў у такіх групах наркотык уводзіцца адным шпрыцам унутрывенна з наступнай перадачай яго адзін аднаму. Заражэнню ВІЧ спрыяе выкарыстанне інфіцыраванага наркотыку або агульных прадметаў яго прыгатавання (тампонаў, посуду). Як толькі сярод наркаманаў трапляецца хаця б адзін заражаны на ВІЧ, праз некаторы час усе члены групы (каля 70% на працягу 2–3 год) становяцца ВІЧ–інфіцыраванымі.

Маладыя людзі, якія прымаюць наркотыкі ўнутрывенна, становяцца цэнтральным звяном у распаўсюджванні ВІЧ–інфекцыі. Праз іх могуць рэалізоўвацца ўсе шляхі перадачы віруса: праз кроў, палавы і вертыкальны (ад ВІЧ-інфіцыраванай маці да дзіцяці).

Усяго ў Беларусі зарэгістравана 4667 ВІЧ–інфіцыраваных (48,3 на 100 тысяч насельніцтва), з іх 71,7% – мужчыны, хаця перадача віруса ад мужчыны жанчыне прыкладна ў 2 разы больш верагодная, чым наадварот. У эпідэмічны працэс уцягнута 128 адміністрацыйных тэрыторый. У стадыі СНІДу знаходзяцца 7 чалавек, у стадыі перадСНІДу – 39. Трыццаць сем чалавек памерлі ўжо ад СНІДу. У Беларусі зарэгістраваны 251 лятальны выпадак сярод ВІЧ–інфіцыраваных. 197 з ліку памерлых – наркаспажыўцы.

Нягледзячы на тэндэнцыю павелічэння колькасці людзей, інфіцыраванне якіх адбылося ў выніку сексуальных кантактаў (2001 год – 27,16%, 2002 год – 33,2%), па-ранейшаму асноўнай прычынай заражэння з'яўляецца ін'екцыйнае ўвядзенне наркатычных сродкаў – 65,4%. З сярэдзіны 2001 года эпідэмічны працэс актывізуецца ў асяродку наркаманаў Мінскай і Магілёўскай абласцей.

У Маладзечне першы ВІЧ–інфіцыраваны зарэгістраваны ў 1998 годзе. Цяпер сітуацыя такая: 7 інфіцыраваных зарэгістравана ў горадзе, 2 – у Маладзечанскім раёне, пяць з іх – наркаманы.

Наркаманія – хвароба, якая характарызуецца непераадольнай цягай да наркотыкаў, якія выклікаюць у малых дозах эйфарыю, у вялікіх – аглушэнне, наркатычны сон. Вынікамі з'яўляюцца бескантрольнасць паводзінаў, магчымасць заражэння ВІЧ, і, як правіла, смерць. Нярэдка пра тое, што ён інфіцыраваны, наркаман даведваецца, патрапіўшы у следчы ізалятар. Таму лепш не паддавацца ціску з боку аднагодкаў, не ўжываць наркотыкі. Нават аднаразовы прыём можа прывесці да заражэння ВІЧ.

Нягледзячы на праводзімую прафілактычную работу сярод моладзі медыцынскімі работнікамі, работнікамі адукацыі, культуры, нярэдка можна пачуць, што пасля дыскатэк знаходзяць выкарыстаныя шпрыцы з крывёй. Таму хочацца звярнуць увагу ўсіх бацькоў на дадзеную праблему: прыглядзьцеся да вашага дзіцяці, ці не змяніліся яго паводзіны, пагаварыце з ім, даведайцеся, як ён ставіцца да праблемы наркаманіі, СНІДу. Магчыма, бяду яшчэ можна адвесці.

На жаль, ёсць людзі, якія ўжо не могуць адмовіцца ад наркотыкаў. У мэтах папярэджання распаўсюджвання сярод наркаманаў ВІЧ–інфекцыі і іншых інфекцый, якія перадаюцца праз кроў, у горадзе створаныя і працуюць пункты па абмене аднаразовых шпрыцаў ін'екцыйнымі наркаманамі:

у псіханеўралагічным дыспансеры (для асоб, якія стаяць на ўліку ў дыспансеры) – штодзённа з 8.00 да 19.00, акрамя суботы і нядзелі;

на базе Таварыства Чырвонага Крыжа па вул. Прытыцкага, 7а, штодзённа (акрамя суботы і нядзелі) з 9.00 да 16.00, дзе мяняюцца шпрыцы усім наркаманам ананімна, без спраўджвання пашпартных дадзеных.

**Марына РЫСНІК,**
**доктар-эпідэміёлаг Маладзечанскага раённага цэнтра гігіены і эпідэміялогіі.**

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020



# Медаль Уладзіміра Раманчыка

**Сёння Уладзіміру Раманчыку, фатографу, удзельніку другой сусветнай вайны, сапёру, ужо 88 гадоў. Жыве ў Гарадку на Маладзечаншчыне.**

У 1939 годзе, праз цяжкія баі з немцамі, Уладзімір дайшоў да Бесарабіі. Было нялёгка, але ён не здаваўся, галоўнае было – дабрацца да Радзімы (два гады не быў дома). Адступаючы назад, дайшоў з баявымі таварышамі да Картуз-Бярозы: "А там нас у цягнік," - гаворыць Уладзімір Іосіфавіч. Саветы доўга не цырымоніліся з польскімі салдатамі.

З дапамогай спецыяльнага сапёрнага ножыка ў вагоне выкалупаў дзірку і праз яе бачыў усю Расію. Кажа, што Расія ў параўнанні з былой Польшчай вельмі дзікая была. Палі былі пераараныя, а бульба нявыбраная, жыта стаяла. А дзеці, што ішлі ў школу, нават свяцілі голым целам.

Палонных давезлі да Смаленска, затым – у Маскву. Там жаўнераў вымылі, накармілі. Есці можна было колькі хацелі, але не дай бог пакласці ў кішэню. Палонныя ведалі: наперадзе будзе сапраўдная нявола. І яна была: перасыльныя пункты ў Іванаве, Волагдзе і... лагер.

За калючым дротам кармілі адным хлебам. Жыццё вязняў мала каго цікавіла. Пасля ўжо пачалі даваць цукар. Ветэран успамінае выпадак. Аднойчы прыехала нейкая камісія з Масквы. А ў лагеры былі двое блізнят, магчыма, з небагатай сям'і. Іх назвалі памешчыкамі. Небаракі кажуць: «Не, мы не памешчыкі, мы шляхта!». Камісіі пераклалі дакладна па слоўніку: "дворяне". І загрымелі хлопцы ў турэмныя сутарэнні. А Уладзіміра Раманчыка ўрэшце адпусцілі дадому. Быў усё яшчэ 1939 год. Мала ён пабыў у спакоі, хутка немцы пайшлі і на Савецкі Саюз.

Бацька Уладзіміра хацеў, каб сын стаў зубным урачом, чарцёжнікам ці фатографам. Той паехаў у Мінск на пошукі шчасця, у камісійным магазіне ўбачыў танны фотаапарат і набыў яго, бо, як казаў, «у нас пры Польшчы, каб купіць фотаапарат, трэба было зямлю прадаваць». Наняў кватэру ў Мінску і пайшоў вучыцца да розных фатографаў. Адзін з іх узяў маладога чалавека да сябе на працу, даваў яму розныя заданні. Так Уладзімір Раманчык пачаў зарабляць грошы для сябе і для настаўніка. Хутка выйшаў нямецкі загад фатаграфавацца ўсім на пашпарты. Вось тады і быў самы вялікі заробак.



Уладзімір Раманчык сустрэў вайну ў 1939 годзе. Фота Яўгеніі МАНЦЭВІЧ.

У Ракаве ён адкрыў фотаатэлье. Ды не доўга папрацаваў. Аднойчы нападпітку яго калега, седзячы з паліцаямі, сказаў: "А вы ведаеце, вас жа Раманчык фатаграфуе"... А тыя ў адказ: «Ён фатаграфуе, а нас партызаны б'юць. Вось забілі нашага аднаго, картачкі знайшліся». Амаль адразу Раманчыка забралі, і пачаліся допыты. У сваё апраўданне затрыманы сказаў, што ўцёк ад партызан і тут мае сваю гаспадарку. "Ці ж быў бы я тут, каб быў партызанам?" Мабыць, паверылі. Яму загадалі забіраць сваю апаратуру і адпраўляцца дадому. А калі хоча фатаграфаваць, прапанавалі альтэрнатыву, каб ехаў у Вілейку, але Уладзімір Раманчык збег да сваёй сям'і.

Шмат смерцяў пабачыў яшчэ Уладзімір Раманчык. У свеце перавярнулася ўсё. Па суседству спыніліся на днёўку партызаны. Уладзімір фатаграфаваў іх у сваёй хаце. Пра партызан у вёсцы даведаліся немцы, з'явіліся нечакана. Жывымі партызаны не выйшлі. А наступнай ноччу ўжо партызаны з'явіліся да суседзяў Раманчыка. Не доўга думалі, пазвязвалі небарак дротам, паабяцаўшы, што заб'юць іх і хату спаляць. Жанчыны пачалі галасіць: "У нас пастушачка ёсць, дзяўчынка. У чым яна вінаватая? Хаця б яе вы адпусціце". Над дзяўчынкай і жанчынамі злітаваліся, а мужчын пастралялі. Аднаго забілі, а двое былі толькі параненыя.

А хутка на тое месца прыйшлі савецкія артылерысты. Уладзіміра Раманчыка ўзялі з сабой. На выхадныя старшы лейтэнант адпускаў усіх дадому. Уладзімір папрасіў, каб і яго адпусцілі, а ён сфатаграфуе лейтэнанта. Той пачаў смяяцца і недаверліва сказаў: "Зробіш гэта? Я сем гадоў дома не быў і ні разу мяне ніхто не фатаграфаваў. Паспрабуй." Даў даведку, што Раманчык не дызерцір, і адпусціў. Вярнуўся Уладзімір з апаратурай. Зняў. За гадзіну пад шынялём праявіў плёнку і зрабіў здымкі. Відаць, спадабаліся лейтэнанту, і ён загадаў сфатаграфаваць усіх афіцэраў падраздзялення. "Усё ж лепш, чым на фронце", — падумаў тады Уладзімір і прыняўся за працу.

Напярэдадні перамяшчэння базы ў іншае месца Уладзімір, у гэтым ён прызнаецца шчыра, уцёк у Маладзечна. Там у пошуку заробку зайшоў да старшыні гарвыканкома і сказаў, што ён фатограф. Але ім патрэбны былі будаўнікі. Уладзімір не разгубіўся і сказаў, што ён шкляр. І пайшоў працаваць. Так атрымаў броню да канца вайны.

Але як на тое, яго якраз знайшоў той камандзір артылерыстаў і залічыў у дызерціры. Нават броня не дапамагла. Але хутка ваенныя ва ўсім разабраліся. Лейтэнант сказаў: "Ніколі я не думаў, што ты фатограф, а такі дурань. Ты ж бы мне сказаў, я б цябе уладкаваў. Вунь мой дом каля аэрадрома, заходзь." Вось і работа знайшлася. Людзей, што на фронт адпраўляліся, там было многа, і ўсе хацелі фатаграфавацца. Плацілі, чым маглі: хто мёдам, хто кілбасой.

"А лейтэнант усё ездзіў на ровары і мне працу добрую шукаў". Недалёка будаваўся магазін ваенгандлю. Там Уладзіміру з дапамогай яго сябра і фотамайстэрню зрабілі. А кліентам загадалі, каб Раманчыку гарэлкі не шкадавалі. Днём ён каго фатаграфаваў, каму рабіў здымкі, вечарам піў і хадзіў на танцы. А калі не пойдзе сам, дык за ім прыйдуць. Так гэта ўсё надакучыла маладому чалавеку, што ён проста стаў урэшце прасіцца ў армію.

Калі Чырвоная Армія зноў пачала наступаць на немцаў, вызваляючы беларускія землі, Уладзіміра ўзялі ў Бабруйскі запасны полк. Пачаўся 45-ы год. У арміі Раманчык спачатку фатаграфаваў на стрэльбішчы. Затым працаваў у фотаатэлье. А потым з мастадарожна-будаўнічым батальёнам трапіў у Маскву, дзе разам з іншымі салдатамі будаваў дачы. А каму яны рабілі такую паслугу, не ведае і па сёння. Уладзіміру падзякавалі за добрасумленную працу і сказалі, што атрымае медаль "За Перамогу ў Вялікай Айчыннай вайне".

Уладзімір вярнуўся ў Маладзечна, але медаля так і не атрымаў. Як перабраўся ў Гарадок, усе медалі везлі туды, але яму зноў не дастаўся. Мяркуе, гэта з-за таго, што Гарадок спачатку належаў Радашкавіцкаму раёну, затым Валожынскаму, а пасля Маладзечанскаму. Мабыць, дзе і згубіўся той медаль... паміж трыма раёнамі.

Толькі пасля развалу Савецкага Саюза прачытаў у газеце запрашэнне ўдзельнікам абаронча вайны 1939 года на баку Польшчы ў польскае пасольства. Нарэшце Уладзімір атрымаў медаль ад польскай дзяржавы. Калі палякі разглядалі яго асабовую справу, то аказалася, што Раманчык ужо атрымаў узнагароду. Той медаль, якога ў вочы не бачыў. Вось такая недарэчнасць выйшла.

Сёння ў калекцыі Уладзіміра каля шасці юбілейных медалёў і польскі медаль "За удзел у абарончай вайне 1939 года".

Да самай пенсіі Уладзімір Раманчык займаўся фатаграфіяй. Здымаў "Фотакорам". У асноўным, людзей. Тры гады фатаграфаваў суседнія гарады: Вілейку, Маладзечна, Радашкавічы, Ракаў і іншыя. Толькі Гарадок зняць не давялося. На семінарах па фатаграфіі ў Мінску не раз атрымоўваў прэміі за новаўвядзенні ў фотамастацтве. Цяпер ён кажа: "Не магу скардзіцца на лёс. Усё ў мяне добра было".

**Яўгенія МАНЦЭВІЧ.**

# Як у былога франтавіка партбілет адбіралі

Вясёлы гэты чалавек – Андрэй Ігнатавіч Майдан. Нават у свае 85 гадоў не расстаецца з гумарам. У гэтым бачыць сваё даўгалецце:

— Магчыма, мая мама сто чатыры гады і пражыла, што заўсёды была вясёлай. І ў людзях цаніла гумар, які нярэдка выручаў яе са складанага становішча. Ды і мне гумар дапамагае.

Але, задумаўшыся, хітра ўсміхнуўся:

— Праўда, не заўсёды.

І ўсё ж размову нашу прадоўжыў з анекдота:

— Неяк у аддаленай вёсцы лектар расказваў пра камунізм. Усё ў чалавека будзе. Даброты пальюцца ракой. Да таго дагаварыўся, што паабяцаў кожнаму жадаючаму верталёт. "А навошта мне, саколік, той верталёт?", — даносіцца з залы старэчы голас. "Як навошта? – са здзіўленнем адказвае лектар. – Вось даведаешся, бабулька, што ў Адэсе паявіліся ў продажы макароны. Ты на верталёт – і за дэфіцытам у горад".

Расказаў і смяецца. Потым расказвае:

— Гэта цяпер мне весела анекдоты пра камунізм расказваць. А некалі было не да смеху. Працаваў я тады сакратаром сельсавета на Чарнігаўшчыне. Толькі што адбыўся XXII з'езд КПСС, які зацвердзіў сваю трэцюю праграму. А ў той праграме яе распрацоўшчыкі пад кіраўніцтвам Хрушчова паабяцалі, што тагачаснае пакаленне будзе жыць пры камунізме. Гэтую ідэю прапагандавалі паўсюдна. Нават на сесіях мясцовых Саветаў лектарам слова давалі. Не выключэннем з'яўляўся і наш Ічнянскі раён.

На адну з такіх сесій райсавета і я трапіў. Як запрошаны. Усё ж такі з'яўляўся сакратаром сельсавета! Сяджу побач з дэпутатамі, уважліва слухаю члена лектарскай групы абкома партыі, які абяцае ўсім малочныя рэкі ў кісельных берагах. Некаторыя недальнабачныя ўдзельнікі сесіі аж абліваюцца ад радасці. А мяне, як на тое ліха, нібы хто за язык пацягнуў. Пытаюся:

— А куды ж бедныя падзяваюцца?

— Ціха ты! – тузануў мяне за крысо паліто сусед. – А то загрыміш пад фанфары.

Лектар не разгубіўся:

— Якія бедныя? Іх і цяпер няма. Я ж казаў, што ўсе будуць роўныя, і чалавек зажыве так, як ніколі не жыў.

Лёгкая хваля смеху зноў пракацілася па зале.

Мяне адразу ж пасля сесіі запрасілі да старшыні райвыканкома, а потым і да першага сакратара райкома партыі.

Залемантавала жонка, даведаўшыся, па якой прычыне я не прыехаў нанач дадому. Назаўтра разам з работнікам райкома КП(б) Украіны паехаў я ў абком партыі. Хто толькі са мной не гутарыў! І інструктар, і загадчыкі аддзелаў, і нават сакратар па ідэалогіі. Дабіваліся ад мяне пачуць, чыіх радыёгаласоў я наслухаўся, хто падбухторыў мяне задаць такое пытанне. Ледзь не ворагам народа мяне зрабілі. "Ды сам я, — кажу, — ляпнуў тую рэпліку". "І раскайваецеся?", – у голасе сакратара чулася спачуванне. "Канечне, раскайваюся", — кіўнуў я галавой у знак згоды.

Але маё раскайванне калі і выручыла, то толькі ад турэмнага зняволення. Пасля таго, як быў развянчаны культ асобы Сталіна, хрушчоўскае пацяпленне значна адрознівалася ад сталінскіх рэпрэсій.

Больш суровы допыт працярпеў я на бюро райкома партыі, дзе разглядалася мая персанальная справа. І закончыўся разгром тым, што мяне выключылі з членаў КПСС і звольнілі з работы.

Праўда, папрацаваўшы крыху загадчыкам гаспадаркі ў мясцовай школе, зноў вярнуўся на некалькі гадоў на пасаду сакратара Заудайскага сельскага Савета – землякі не пакінулі мяне без увагі і зноў выбралі сваім дэпутатам. Між іншым, як Хрушчова скінулі, да мяне прыязджалі з райкома партыі, прапаноўвалі напісаць заяву з просьбай аднавіць мяне ў членстве партыі. Але я не пагадзіўся , так і застаўся беспартыйным.

Шмат гадоў ветэран Вялікай Айчыннай вайны Андрэй Ігнатавіч Майдан жыве на Вілейшчыне, куды разам з жонкай перабраўся на старасці гадоў. Спачатку купілі хату ў Снежкаве, а калі аўдавеў, пераехаў у горад да дачкі, якая яшчэ ў 69-м годзе з мужам Яўгенам Яўграфавым прыехала сюды з Украіны будаваць Вілейска-Мінскую водную сістэму. Другая дачка А.Майдана жыве ў Рызе. Растуць чацвёра ўнукаў, шасцёра праўнукаў.

— Крыўдна, — сказаў Андрэй Ігнатавіч, — што я прайшоў вайну ад званка да званка, а са мной так абышліся. А я ж членам партыі стаў пад Сталінградам, калі перад чарговым боем напісаў заяву: "Калі загіну, то лічыце мяне камуністам".

**Барыс МАНЦЭВІЧ.**

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020



■ ПАРТРЭТ

# Універсальны спартсмен

**Аляксандру Кавалёву, які ўзначальвае аддзел па фізкультуры, спорту і турызму пры Маладзечанскім райвыканкоме, у лютым споўнілася 50 гадоў.**

Нягледзячы на не юнацкі ўзрост і адказную пасаду, ён штодня каля двух гадзін аддае бегавым трэніроўкам. Сам у маладосці быў рознабаковым спартсменам, выканаў нарматыў кандыдата ў майстры спорту (кмс) па веласіпедным спорце і хуткасным бегу на каньках, дасягнуў першага разраду ў лёгкай атлетыцы, лыжным спорце, гарадках і мнагаборстве "Здароўе". Увогуле займаўся больш чым дзесяткам відаў спорту, уключаючы і гульнявыя, хіба што ў адзінаборствах сябе не паспытаў. Мае судзейскія катэгорыі: нацыянальную – у гарадках, і першую – у лёгкай атлетыцы.



Загадчык Маладзечанскага раённага аддзела па фізічнай культуры, спорту і турызму Аляксандр Кавалёў разам з дачкой Насцяй разглядаюць спартыўныя ўзнагароды. Усяго ў сямейнай калекцыі Кавалёвых больш за 50 спартыўных перамог.

Фота Ірыны РАБУШКІ.

### Спартыўная маладосць

**– Выхад у паўфінальную стадыю спаборніцтваў пад назвай "жыццё" – добрая падстава, каб азірнуцца назад, успомніць падзеі папярэдніх стадый. Давайце па парадку, з дзяцінства.**

– Нарадзіўся ў Маладзечне. Маці не стала ў 1991-м, бацька цяпер на пенсіі, ёсць малодшая сястра. Вучыўся ў СШ№2. У горадзе тады была адна ДЮСШ. Яна знаходзілася там, дзе зараз манеж. У **Георгія Шэлега** з 4-га па 6-ы класы я займаўся скачкамі і бегам. У **Анатоля Бераснева** – футболам, уваходзіў у зборную сваёй школы. З 1968 года пад кіраўніцтвам **Аляксандра Лявончыка** большую ўвагу стаў надзяляць хуткаснаму бегу на каньках, быў чэмпіёнам Мінскай вобласці сярод школьнікаў, уваходзіў у рэспубліканскую юнацкую зборную таварыства "Спартак". Гэта зімовыя заняткі, а летам – веласпорт. Дарэчы, тады ў Маладзечне працаваў трэнерам **Леанід Марачкін**, родны брат будучага (1976 год) алімпійскага чэмпіёна Уладзіміра Камінскага.

**– Дзе ў Маладзечне можна было трэніравацца на каньках?**

– Гарадскі стадыён на зіму цалкам заліваўся пад каток. Круг быў стандартны – 400 м. Вялікага лёду ў горадзе не стала недзе напрыканцы сямідзесятых, калі на дарожкі стадыёна паклалі гуму.

**– Цікава даведацца пра гэтыя падрабязнасці. Калі ласка, працягвайце.**

– Службу ў Валожыне, але спорт не закінуў, помню, 1 км прабег у ботах за 2.41, зараз так у красоўках рэдка бегаюць, стаў чэмпіёнам часці. Пасля арміі шэсць гадоў правёў у веласпорце, выступаў за "Спартак", выканаў нарматыў кмс. Паралельна закончыў ПТВ-87, працаваў.

З 1977-га па 1982-і вучыўся ў РТІ, атрымліваў прафесію інжынера-электрыка. У той час выступаў за "Буравеснік", зноў сумяшчаў веласпорт з канькамі, дзе таксама стаў кандыдатам у майстры спорту.

**– Прыпомніце якія-небудзь цікавыя падрабязнасці з тых часоў. Пажадана рэальныя гісторыі, але падобныя на байкі.**

– Была гонка недзе на 180 км. Лідзіраваў адзін магілёўчанін, і літаральна за 50 м да фінішу ён развярнуўся і паехаў назад. Яго спынілі, накіравалі ў патрэбны бок, і ўсё абышлося, нават паказаў час майстара спорту. Справа ў тым, што чалавек настолькі знясілеў, ужо не мог арыентавацца ў прасторы. Праехаўшы натоўп гледачоў, пачуў адтуль у сябе за спіною крыкі "Фініш, фініш" і павярнуў на гэтыя галасы.

...І ў мяне была сітуацыя. Таксама перад самым фінішам. Тыя, хто паехаў у адрыў, ужо закончылі гонку. Я еду за імі, ну, а за мною ўся група у 150-200 чалавек. І тут у мяне ламаецца веласіпед: праблемы з колам. Спыніўся, закінуў веласіпед на плечы і пабег да фінішу. Так група і не дагнала.

...Добра знаёмы з Уладзімірам Камінскім. Ён просты чалавек, можа пагаварыць на любую тэму, за раз працуе ў рэспубліканскай федэрацыі. Неяк жылі на зборах у адным пакоі. Рабіў усе па распарадку: харчаванне, адпачынак. Таму і стаў алімпійскім чэмпіёнам.

**Працяг будзе.**

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

■ ФУТБОЛ

## Нічыя «Маладзечна» і «Смаргоні»

22 лютага. Гарадскі стадыён, снег.

Маладзечна-2000 – Смаргонь 0:0

Маладзечна-2000 (другі склад) – Смаргонь (другі склад) 1:0

Гол: Урублеўскі (25-пен)

Маладзечанцы заключылі кантракт з паўабаронцам 1984 г.н. **Сяргеем Лабанавым** з дубля "Белшыны", а таксама дамовіліся аб арэндзе на адзін год дублёраў жодзінскага "Тарпеда" 1982 г.н. абаронцы **Аляксея Крывіцкага** і паўабаронцы **Максіма Веташкіна**.

Развітаўся клуб з Сяргеем Тартоўскім і Дзмітрыем Акулічам. Аўтар гола **Віктар Урублеўскі** знаходзіцца на праглядзе. Гэты паўабаронца 1978 г.н. летась гуляў у "Забудове".

■ НА ГЭТЫМ ТЫДНІ ГУЛЯЮЦЬ

28 лютага – 2 сакавіка, Маладзечна, клуб "Караліна"

Заключны этап чэмпіянату горада па більярдным спорце "Піраміда".

Фінал у нядзелю з 14-00.

1-2 сакавіка, легкаатлетычны манеж Маладзечанскай СДЮШАР.

Матчавая сустрэча па лёгкай атлетыцы сярод каманд беларускіх гарадоў. Пачатак у суботу – у 10-45, у нядзелю – у 10-15.

■ ТУРЫЗМ

## Конкурс карэспандэнтаў

**МАЛАДЗЕЧНА. Турклуб "Пілігрым" правёў традыцыйны конкурс на самага актыўнага карэспандэнта.**

Улічваліся публікацыі на турысцкую тэматыку ў газетах і на радыё. У "Рэгіянальнай газеце", якая актыўна ўдзельнічала ў конкурсе, выйшла каля паловы ўсіх публікацый.

З яўным адрывам перамог старшыня клуба **Сяргей Бялкоў**, які падрыхтаваў 33 публікацыі. У конкурсе ўдзельнічала 28 карэспандэнтаў.

**Аддзел інфармацыі "РГ".**

■ ЛЁГКАЯ АТЛЕТЫКА

## Замежныя старты

**СУМЫ. У спаборніцтвах у двух узростах (1986-87 г.н. ды 1988 г.н. і малодшыя) прынялі ўдзел калектывы з 18 гарадоў.**

Яны з'ехаліся з розных куткоў Украіны, з Арлоўскай і Курскай абласцей Расіі, а таксама былі беларусы са Смаргонскай СДЮСШАР.

Турнір праходзіў у звышсучасным манежы, у пабудаванне якога Украінская акадэмія банкаўскай справы ўклала 8 мільёнаў долараў.

Выступілі нашы выдатна. На дзесяць чалавек прывезлі дзевяць першых месцаў. Найбольш, дзвюма перамогамі, вызначыліся **Вікторыя Радчук** (60 м і 200 м) і **Сяргей Траскоўскі** (2000 м з перашкодамі, 3000 м) сярод старэйшых ды **Мікалай Баран** (400 м і 800 м) сярод малодшых.

ЛЮКСЕМБУРГ. У мястэчку Дзікірш прайшоў так званы "Еўрапейскі крос-2003".

Сабраліся пасланцы больш чым дваццаці краін ва ўсіх узростах — ад васьмі гадоў і да ветэранаў. Акрамя еўрапейцаў былі прадстаўнікі афрыканскіх краін, якія дамінавалі ў спаборніцтвах сярод дарослых.



Трэнер Маладзечанскай СДЮШАР па лёгкай атлетыцы Леанід Арцем'еў падрыхтаваў пераможцаў і прызёраў "Еўрапейскага кросу-2003", які ў лютым прайшоў у Люксембургу.

Фота Мікалая ХАДАСЕВІЧА.

Разам з трэнерам **Леанідам Арцем'евым** ездзілі маладзечанцы **Яўген Мучынскі**, **Дзяніс Гіль** і **Аляксандр Камінскі**. Яны ўдала выступілі ва ўзросце 15-16 гадоў. На дыстанцыі 4800 метраў з 21 удзельнікам занялі адпаведна першае, другое і чацвёртае месцы.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

■ ГРЭКА-РЫМСКАЯ БАРАЦЬБА

## Турнір памяці воіна-афганца Сяргея Новікава

**МАЛАДЗЕЧНА. Традыцыйны турнір сярод юнакоў памяці воіна-афганца Сяргея Новікава, што праходзіў у Чысці, як заўсёды, быў вельмі прадстаўнічым і цікавым на накале.**

Ва ўзросце 1984-85 г.н. змагаліся кандыдаты на паездку на чэмпіянат Еўропы сярод кадэтаў. Прыехалі госці з пяці сталічных школ, а таксама з Гродна, Барысава, Бабруйска. Рэгіён прадстаўлялі маладзечанцы з гарадской і з раённай ДЮСШ. Усяго катэгорыяў атрымалася 21, а агульная колькасць юнакоў склала 220 чалавек.

Назавём уладальнікаў першых месцаў з рэгіёну. Гараджане **Яўген Туровіч** (32 кг), **Андрэй Балаш** (38 кг), **Дзмітрый Карповіч** (45 кг) ва ўзросце 1990-92 г.н., **Аляксандр Папоў** (38 кг), **Дзмітрый Захараў** (44 кг), **Кірыл Жукоўскі** (54 кг), **Павел Прадуха** (69 кг), **Яўген Колесень** (дадатковая катэгорыя звыш 59 кг) ва ўзросце 1988-89 г.н., **Аляксандр Забагонскі** (1986-87, 63 кг).

Іх рыхтавалі **Мікалай Багданёнак**, **Сяргей Валасковіч**, **Віктар Вянглоўскі**, **Яўген Козел**, **Антон і Дзяніс Найлаўцы**.

Раённікі **Тарэл Медашвілі** (1990-92, 54 кг) з Краснага, а з Чысці **Дзмітрый Аленскі** (1986-87, 58 кг), якія зараз вучацца ў Гродзенскім вучылішчы алімпійскіх рэзерваў, і **Павел Сафронаў** (1984-85, 75 кг). Іх рыхтавалі **Дзмітрый Дзёмін, Сяргей Козак і Сяргей Сафронаў**.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

■ МІНІ-ФУТБОЛ

## Маладзечанцы – у фінале чэмпіянату Мінскай вобласці

**МАЛАДЗЕЧНА. Пасля Кубка вобласці старт узяў чэмпіянат, які праходзіць па той жа схеме.**

З шасці каманд-удзельніц занальнага турніру ў фінальны меў права выйсці толькі пераможца. Той, хто займаў другое месца ў зонах, мог разлічваць прабіцца туды па дадатковых паказчыках сярод прадстаўнікоў усіх зон. У нашай зоне за другое месца ішла вельмі ўпартая барацьба. У выніку тры калектывы набралі аднолькавую колькасць ачкоў – па 9. На жаль, гэта і стала перашкодай для працягу выступленняў: гэта менш, чым у астатніх групах.

Маладзечанцы на гэты раз сабралі зборную горада з прадстаўнікоў "Забудовы", ЗМК і дубля "Маладзечна-2000". Гулялі варатары **Аляксандр Мялюк** (асноўны), **Андрэй Вяль**, палявыя **Віталь Казяк** (8 галоў), **Аляксей Антановіч** (3), **Сяргей Дакурна** (3), **Максім Невядомскі** (3), **Дзмітрый Касцюк** (3), **Віталь Абановіч** (1), **Аляксандр Страх, Віталь Чарняўскі**. Трэнер **Канстанцін Харламаў**.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020



# ВІНШАВАНКІ

**Ф.І.Світо**, Маладзечна

Паважаны Франц Іосіфавіч!
Віншуем Вас з 75-годдзем!
Жадаем і надалей руплівасці краязнаўцы, цвёрдасці рукі доктара, шчырага сэрца бацькі і мужа.
*"Рэгіянальная газета"*.

Віншуем **Іру Шарафановіч** з Вілейкі з днём нараджэння! Жадаем здароўя, шчасця, кахання. *Муж, сын, Шарафановіч, Сляўка.*

**Ірачка**! Віншуем з днём нараджэння! Жадаем табе здароўя, даўгалецця, удачы, кахання. *Сям'я Бохан з Вілейкі.*

З днём нараджэння, **Ірына Рыгораўна**! Жадаем здароўя, кахання, сямейнага шчасця, радасці, удачы. *Фаіна і Таня Каспяровічы з Маладзечна.*

Дарагога, каханага **Алега Вашкевіча** віншую з днём нараджэння! Жадаю шчасця, здароўя, поспехаў у рабоце. *Наташа.*

Віншуем з юбілеем **Ядвігу Генрыхаўну Ганчарык**! Жадаем здароўя, шчасця, дабра, усмешак. *Сястра, пляменніцы Наташа і Жанна.*

Віншую **Наташу Грыхуцік** з днём нараджэння! Здароўя, быць заўсёды прыгожай, непаўторнай, пяшчотнай і дарагой. *Муж.*

Віншую **Наташу Краўчонак** з Вілейкі з днём нараджэння! Жадаю здароўя, кахання, поспехаў. *Дзіма Мандрык.*

Віншуем з днём нараджэння **Наташку Краўчонак**! Будзь здаровай, прыгожай, шчаслівай. *Твае родныя.*

**Фаіна Віктараўна Бобрык**, віншуем з днём нараджэння! Жадаем моцнага здароўя, шчасця і ўсяго самага добрага. *Н.Клімовіч.*

Віншуем **Дзмітрыя Уладзіслававіча Зянько** з днём нараджэння! Жадаем здароўя, удачы, поспехаў у вучобе, добрых сяброў. *Маці і сястра.*

Віншуем **Паліну і Ігара Алішкевічаў** з днём нараджэння! Жадаем здароўя, кахання, поспехаў ва ўсім, удачы. *Рэгіна Сцяпанаўна і Аксана.*

Віншуем з днём нараджэння і Днём міліцыі **Сяргея Іванавіча Сцепаненку** з в. Каштаноўка! Жадаем здароўя, поспехаў у працы. *Жонка і бацькі.*

Віншуем з днём нараджэння **Тамару Сяргееўну Шыла**! Шчасця, здароўя, даўгалецця, сямейнага дабрабыту табе. *З павагай сям'я Бондараў, в. Насілава.*

Віншую **Віталія Вяршыцкага** з 25-годдзем! Жадаю здароўя, шчасця, сямейнага дабрабыту, поспехаў у жыцці. *Брат.*

*Маладзечанскі турклуб "Пілігрым"* віншуе з 50-годдзем **Віктара Вярбіцкага**! Жадаем здароўя, сямейнага шчасця і ўсяго самага добрага.

Віншуем цёцю **Лідзію Уладзіміраўну Якімовіч** з жаночым днём! Жадаем добрага настрою, здароўя, шчасця, дабра. *Вашы пляменнікі.*

Віншуем дарагую маму, свякроў, бабулю **Надзею Уладзіміраўну Сільвановіч** з Днём 8 Сакавіка! Шчасця, здароўя, дабрабыту, радасці. *Родныя.*

Віншую **Вольгу Сільвановіч** з Днём 8 Сакавіка! Жадаю шчасця, радасці, здароўя, кахання, аптымізму. *Вольга.*

Віншую сястру **Кацярыну Малюш** з жаночым днём! Веры, надзеі, кахання, шчасця, сямейнага дабрабыту! *Сястра Вольга.*

Віншуем дачушку **Машачку Сільвановіч** з жаночым днём! Жадаем моцнага здароўя, яркіх усмешак, вясёлага смеху. *Мама, тата.*

Любімую сястрычку **Лідзію Іванаўну Бельскую** з Маладзечна віншуем з юбілеем! Жадаем здароўя, шчасця, даўгалецця, сямейнага дабрабыту. *Родныя.*

Любімую мамачку **Жанну Леанідаўну Кляткевіч** віншуем з днём нараджэння! Будзь заўсёды прыгожай, ласкавай і здаровай. *Насця, Сяржа.*

Дарагога ўнука **Сярожку Барысевіча** з Вілейкі віншую з 17-годдзем! Жадаю шчасця, няхай здзяйсняюцца твае мары. *Бабуля.*

**Аляксандра Іосіфаўна Корсак**, з юбілеем цябе, дарагая! Шчасця, здароўя, кахання! *Дзяўчаты зачысткі ССІ-2 ААТ "Буддэталі", Вілейка.*

Віншуем дарагую маму, цешчу, бабулю **Валянціну Іванаўну Павалаеву** з днём 8 Сакавіка! Шчасця, радасці, здароўя, удачы. *Родныя.*

## Кінатэатр «Радзіма»

**3-9 сакавіка.** Прэм'ера. **«Дрэнная кампанія»**, баявік, ЗША – у 17.00, 19.00 і 21.00 (акрамя 6 сакавіка).

Кожны чацвер у сакавіку – фестываль маладзёжнага фільма. **6 сакавіка. «Маё вялікае грэчаскае вяселле»**, камедыя – у 17.00 (ільготныя білеты), 19.00 і 21.00.

У пятніцу і суботу ў 21.00 дыскатэка "Медыум" запрашае на маладзёжныя вечарынкі. **Дыскатэка 14±2. Прыходзьце ў 19.00 кожную суботу.**

Прымаем калектыўныя заяўкі на правядзенне святочных вечарынак. Тэл. для даведак: 7-15-92, 7-06-30.

**Кінатэатру «Радзіма» тэрмінова патрабуецца сантэхнік** на паўстаўкі (можна пенсіянер).

**Кінатэатру «Мір» г.п.Радашкавічы патрабуецца дырэктар.** Тэл. 7-17-02.

## ■ ІМЯНІНЫ

**28 лютага. Праваслаўныя**: Ефрасінні, Анісіма, Аўсея, Пафнуція.
**Каталіцкія**: Макара, Рамана.
**1 сакавіка. Праваслаўныя**: Данілы, Ілы, Ісая, Парфірыя, Паўла, Самуіла, Юльяна.
**Каталіцкія**: Антаніны, Альбіна, Фелікса.
**2 сакавіка. Праваслаўныя**: Фёдара.
**Каталіцкія**: Алены, Паўла, Радаслава.
**3 сакавіка. Праваслаўныя**: Кузьмы, Льва.
**Каталіцкія**: Кунягунды, Марыны.
**4 сакавіка. Праваслаўныя**: Багдана, Макара, Максіма, Фёдара, Фядота, Яўгена.
**Каталіцкія**: Люцыі, Казіміра.
**5 сакавіка. Праваслаўныя**: Льва.
**Каталіцкія**: Андрыяна, Вацлава.
**6 сакавіка. Праваслаўныя**: Георгія.
**Каталіцкія**: Ружы, Віктара.

## ЗНАЁМСТВЫ

Пазнаёмлюся з жанчынай 25-35 год для сур'ёзных адносін. Пра сябе: 34/170/70. 222310, Маладзечна-7, п/п 0658381.

Удава 47/164/80, забяспечаная, адукацыя сярэдняя, без шк/зв. Пазнаёмлюся з мужчынам для сумеснага жыцця. Згодная на пераезд. Валожын-1, п/п МС 0646844.

## Купон 9

рэгіянальная газета

**да рубрык «Віншаванкі» і «Знаёмствы». Бясплатна змяшчаюцца тэксты аб'ёмам да 15 слоў. Ананімныя купоны не разглядаюцца. Пішыце, калі ласка, разборліва.**

ТЭКСТ

ПРОЗВІШЧА, ІМЯ, АДРАС (НЕ ДЛЯ ДРУКУ)

**Звярніце ўвагу**

**Шаноўныя чытачы, калі вы хочаце павіншаваць знаёмых, блізкіх, то высылайце купон з разборліва напісаным тэкстам загадзя. Указвайце дату публікацыі – газета выходзіць па пятніцах. Бясплатна прымаюцца віншаванкі аб'ёмам да 15 слоў, якія паступілі ў рэдакцыю да аўторка ўключна. Зрабіце прыемнае сваім блізкім – павіншуйце іх праз газету! Калі вы хочаце размясціць аб'яву аб знаёмстве, калі ласка, указвайце адрас да запатрабавання. Бясплатна змяшчаюцца аб'явы аб знаёмстве аб'ёмам да 15 слоў. Публікуюцца па чарзе. Па-за чаргой – платна. Жадаем знайсці сваё шчасце!**


Будзь у нашай кампаніі –
**падпішыся!**

Ідзе падпіска на «Рэгіянальную газету» на другі квартал года.
Калі вы яшчэ не падпісаліся на газету, якую цяпер трымаеце ў руках, зрабіце гэта.

**«Рэгіянальная газета» заўсёды стараецца быць у віры падзей, даваць карысныя і цікавыя матэрыялы на самую розную тэматыку: гістарычныя старонкі, расказы пра цікавых людзей нашага краю, парады для садаводаў, гаспадынь і аўтааматараў. Тэлетыдзень «Рэгіянальнай газеты» заўсёды насычаны анонсамі фільмаў тыдня.**

Рэгіянальная газета — Птушка шчасця
Вясковы парламент
Рэгіянальная газета — Елачка з Папоўкі

Мы не здраджваем сваім сябрам. Заставайцеся з намі.

**Індэкс індывідуальнай падпіскі 63212, кошт на месяц 1704 рублі, на квартал – 5112.**
**Індэкс ведамаснай падпіскі 63369, кошт на месяц 5595 рублёў, на квартал – 16785 рублёў.**


■ ПАРАДЫ САДАВОДУ І АГАРОДНІКУ

# Што і як рабіць у сакавіку?

**У гэтым месяцы адводзяць талую і дажджавую ваду з нізкіх месцаў, асабліва з пасадак суніц (калі яна застаялася).**

Раніцай, калі яшчэ глебу трымае мароз, з усіх бакоў аглядаюць дрэвы і здымаюць з іх гнёзды шкоднікаў, якіх не заўважылі зімой, выразаюць нарасты грыба-трутавіка. Раны замазваюць садовым варам, а грыб спальваюць.

Абчышчаюць дрэвы ад гнілі і адмерзлай кары, імхоў і лішайнікаў. Выразаюць гніль да здаровай драўніны, дэзінфіцыруюць 3-% (3 г на 100 г вады) растворам меднага купарвасу або марганцоўкі і зафарбоўваюць охрай на натуральнай аліфе.

Нарыхтоўваюць моцныя аднагадовыя чаранкі парэчак для веснавой пасадкі. Да набрынянняя пупышак заканчваюць абрэзку дрэў, калі гэтага не зрабілі раней. Выразаюць сукі піламі і нажамі, а не секатарамі, таму што апошнія даюць рваныя раны, якія доўга не зарастаюць. Секатарамі толькі ўкарочваюць галіны. Наразаюць чаранкі для прышчэплівання і перапрышчэплівання з дрэў толькі тых сартоў, якія даюць прыгожыя, лежкія і транспартабельныя плады. Зрэзаныя чаранкі звязваюць у пучкі шпагатам, а да звязкі дроцікам прымацоўваюць этыкеткі. Захоўваюць чаранкі ў снезе або ў поліэтыленавым пакеце ў халадзільніку. Галоўнае, каб яны не засохлі і не распусцілі пупышак. Калі ёсць магчымасць нарэзаць чаранкі недалёка ад месца прышчэплівання, то нарыхтоўваць іх загадзя не абавязкова, а можна рабіць гэта ў дзень прышчэплівання.

Асабліва пільна аглядаюць пупышкі чорных парэчак. Калі яны не распускаюцца, а толькі надзьмуліся і акругліліся ў выглядзе качанчыкаў – расліны пашкоджаны кляшчом. Калі на галінцы да 10 такіх пупышак, вышчыпніце іх, а больш 10 – выражце ўсю галінку і спаліце. Часта парэчкі становяцца паўсухімі з чорнымі, быццам выціснутымі плямамі, а ўнізе – з трэшчынамі розных памераў. Такія расліны таксама трэба выразаць і спаліць.

А бывае, што парэчкі засыхаюць і ломяцца нават ад невялікай нагрузкі, асяродак іх амаль да кораня выедзены шматногім вусенем. Значыць, завялася шклянніца. Выразайце і знішчайце такія расліны на працягу 2-3 гадоў, і вы поўнасцю вызваліцеся ад гэтага шкодніка без ядахімікатаў.

Агрэст вельмі ўспрымальны да мучністай расы. Захварэўшыя парасткі скрыўляюцца, пакрываюцца белым налётам і прыпыняюць рост. Іх таксама трэба выразаць і спаліць, а здаровыя кусты апрыскваць разбаўленым вадой каравяком (1:3).

Пладовыя дрэвы і кусты мэтазгодна абразаць 1 і 19, 20; прышчэпліваць яблыні і грушы ў кватэры, а магчыма, і ў садзе 12, 13 і да 12 гадзін 14 сакавіка.

ххх

У сакавіку большасць работ агароднікі выконваюць у закрытым грунце (у цяпліцы або прыстасаваным для гэтай мэты памяшканні). Асаблівую ўвагу ўдзяляюць агуркам. Каб да жаночага свята атрымаць паўнацэнныя плады, агуркі раз у сем дзён падкармліваюць агароднай сумессю (50 г на 10 л вады, 0,5 л такога раствору на расліну).

Калі на ніжнім баку лісцяў паяўляюцца светлажоўтыя крапінкі ў выглядзе праколаў – на расліны напаў павуцінны клешч. Іх неадкладна трэба апырснуць настоем бульбоўніку, шалупіння цыбулі, выцяжкай часнаку (50 г на 10 л вады) або іншым раслінным прэпаратам.

Згодна з месяцавым календаром, **неспрыяльнымі для сяўбы і пасадкі ўсіх культур будуць 1, 3, 14-16 і 27-29 сакавіка.**

Месяц расце з 3 да 18, а ўбывае з 19 да 31 сакавіка.

Найбольш **спрыяльныя** дні для сяўбы на расаду **агуркоў** — 4, 7, 8, 12, 13; **памідораў і перцу** 7, 8, 12, 13; **баклажанаў** – 4, 7, 8, 12 і 13; **капусты** – 4, 7, 8, 12 і 13; **салаты, шпінату, кропу, пятрушкі, сельдэрэю на зеляніну** (на падаконніку або ў цяпліцы) – 4, 7, 8, 12, 13 і 17; **радыскі, морквы, пятрушкі** для атрымання караняплодаў – 19-22 і 24, 30, 31 сакавіка.

**Убіраць зеляніну** лепш за ўсё 12, 14 і 15; **караняплоды** – 19-21 і 25-29 сакавіка.

Найбольш **спрыяльныя** дні для **яравізацыі бульбы** – 2, 19, 20, 25 і 26 сакавіка.

У неспрыяльныя дні апрацоўвайце і апрысквайце расліны супраць шкоднікаў, прапалвайце ад пустазелля. **Палівайце ўсе культуры** 2, 3, 12-14, 20, 21 і 29, 30 сакавіка.

■ ШТО ПРА НАС ПІСАЛІ 95 ГОД ТАМУ

# Што дзеецца ў Лебедзеве

М. **Лебедзево** Вил. губ. Вилейск. п. Як писалося ўжо ў "Н. Н", ў Лебедзеве залажылася гаспадарская суполка. Ў гэту суполку записалася ўжо чалавек 20; выбраны камитэт з 3 паноў и 7 мужыкоў. Кажуць, што грошэй ў суполку абецали некаторые паны даць 250 руб. Чым больш грошэй будзе ў касе, тым лепей пойдзе праца суполки. Такие гаспадарские суполки ў других краёх скрозь пазакладалися, ды зрабили и робяць шмат для паляшэньня сельскай гаспадарки. У нас гэта новая рэч, и некаторые беднейшые мужыки каля Лебедзева, па цемнаце сваей, кажуць, што такие суполки галоднаго не накормяць.

Лебедзеўские людзи и мужыки з суседних вёсак, трэба праўду сказаць, жывуць меж сабой добра, хто бы яны не были — каталики, ци русские.

Добры прыклад даюць у нас людзям ксёндз и поп, жывучы меж сабой у згодзи, не так, як па других мейсцох бывае, гдзе раздзьмухиваюць ненависць адных хрысциян на других.

Некаторые людзи ў Лебедзеве и па вёсках ўжо не маюць хлеба; няведама, як будзе далей. Бяднейшые харчуюцца только бульбай. Хоць гэты год и галодны, але як праходзиш ў мястэчку каля новаго трахцира, дык тамака як пчолы ў караннику гудзяць пьянюги. Вось нехай бы суполка завела па сьвятах чытаньня аб гаспадарцы, ды библиотэку; тагды мужыки трацили бы час не на трахцир, а на што карыснае.

**"Адзин Язук". Першая Беларуская Газэта з Рысунками "Наша Нива". №5 ад 29 лютаго 1908 г.**

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

